PL ISSN 0546-1960
NR INDEKSU 366714

# Ніва

ТЫДНЁВІК БЕЛАРУСАЎ У ПОЛЬШЧЫ

**№ 5 (2125) Год XLII Беласток 2 лютага 1997 г. Цана 1 зл.**



*Выступаюць дзяўчаты з Кленік.*

## Спевы ад сэрца

У нядзелю 19 студзеня адбылася ў Гайнаўскім доме культуры другая частка ваяводскага агляду калядных калектываў; першая частка адбылася тыдзень раней у Пагажалках, што пад Кнышынам. У гайнаўскім аглядзе ўдзельнічала 20 калектываў з паўднёвай часткі ваяводства; большасць з іх прадстаўляла праваслаўную калядную традыцыю і амаль усе апошнія вядомыя з аглядаў беларускай песні. Праваслаўныя калядкі спявалі: ансамбль дашкольнікаў з Беластока, беластоцкі дзіцяча-маладзёжны хор Свята-Мікалаеўскага прыхода, „Арэшкі” з Арэшкава, „Чыжавяне” з Чыжоў, „Красуні” з Краснага Сяла, „Збучанкі” са Збуча, маладзёжны калядны калектыў з Кленік, калектыў з Чаромхі-вёскі, „Тыневічанкі” з Тыневіч, „Незабудкі” з Курашава, дзіцячы гурт гуцульскай песні „Ранок” з Бельска, народны калектыў з Дабрывады, „Каліна” з Дашоў, „Родына” з Дубяжына, „Мельнічанкі” з Мельніка, „Цаглінкі” з Ляўкова і хор Гайнаўскага дома культуры. Каталіцкія калядкі выконвалі калектывы „Тэнча” з Нурца-Станцыі і „Каліна” з Журобіч, што ў Дзядковіцкай гміне. Маладзёжны калектыў з Дабрывады спяваў што папала ды і апрануты дзяўчаты былі, адзінымі, у міні-спаднічкі. Гарадскія выканаўцы мелі на сабе галавопратку, а вясковыя — тое, у чым ходзіцца калядаваць. Многія яны мелі на сабе вышываныя па-даўнейшаму кажухі, а калі хто не меў кажуха, то хаця б паліто з нейкім футравым каўнерам: з ліса, нутрыі ці кажурыны. Прыгожа былі апрануты кленіцкія дзяўчаты: сучасная вопратка з адмыслова накінутымі вялікімі ажурнымі хусткамі. Амаль кожнаму калектыву спадарожнічала гвязда. Гвязды былі розныя: ад аднарадовых шасцірогавых да двухрадовых дзесяцірогавых; апошняя — найбольшая — была супольная ў „Збучанак” і „Тыневічанак”, усярэдзіне мела падсветленую залацістую батлейку. Калі калісь хадзілі калядаваць толькі хлопцы, то сёння, як вынікала б з агляду, калядуе іх мала, а ў некаторых калектывах — дык і зусім не было іх! Некаторыя калектывы мелі па адным мужчыне, адыгрываў ён ролю насільшчыка — насіў гвязду. Кольскасць удзельнікаў калектываў — розная: у гарадскіх мнагавата, а ў вясковых — ледзь-ледзь; з Чаромхі-вёскі было толькі чатыры жанчыны, а з Мельніка і таго менш — адно тры! Рэпертуар складалі наогул „свае” калядкі — тыя, якія традыцыйна спяваюцца ў нашых вёсках. Калектыў з Нурца-Станцыі, апрача спеваў, меў у сваім складзе і тамашнюю народную паэтэсу, якая чытала свае вершы. У адным з такіх вершаў апавядалася, як гэта ў віфлеемскую пячору пачалі сходзіцца розныя ваякі і прыносіць свае дары. Запомніўся мне крыху артылерыст, які звярнуўся да Нованароджанага: *Masz tu działko ze stali, co kulami jak ze śniegu wali...* Калі ўлічыць яшчэ дары ад другіх вайсковых спецыялістаў, дык Хрыстос явіцца там як нейкі прынамсі маршал, калі не генералісімус. Што ж — *людовым* Шымборскім Евангелле і Апакаліпсіс гэта адно і тое ж.

Нягледзячы на пераліканыя мае прычэпкі, конкурс падабаўся. Было відаць вялікую заангажаванасць выканаўцаў і слухача аваладвала побач захаплення і здзіўленне, што можна так зладзіць галасы, асабліва на вёсцы, дзе не хапае не толькі інструктараў, але і, найчасцей, часу. Дарэчы, падсумоўваючы агляд, прафесар Сьрудкоўскі не мог скрыць свайго захаплення выканаўчым майстэрствам спевакоў, гаворачы, што хаця спевы не мелі рыфмы, прыгожыя яны тым, што выспеваныя ад сэрца.

На канец яшчэ пару чыста фармальных вестак. Пагажалкаўскі і гайнаўскі агляды павінны былі вылучыць чатырох прадстаўнікоў Беластоцкага ваяводства на міжваяводскі агляд калядных калектываў, які мае адбыцца ў наступную зіму. Было гэта задачай журы, якім кіраваў прафесар Ежы Сьрудкоўскі, а памагалі яму Веслаў Дамброўскі, кіраўнік ансамбля „Курпе Зелёнэ”, і ўсім нам вядомы аніматар беларускага мастацкага руху — Сцяпан Копа. Ганаровым гаспадаром агляду быў Казімеж Дэркоўскі, дырэктар Аддзела культуры Ваяводскай управы ў Беластоку. Агляд вялі: дырэктар Барбара Пахольска з Ваяводскага асяродка анімацыі культуры і дырэктар Гайнаўскага дома культуры Мікалай Бушко.

Публікі было малавата, хаця аб'явы аб аглядзе перадаваліся ў гайнаўскай тэлекабельнай сеці. Калі ў глядзельнай зале сядзелі выканаўцы, дык магло скласціся ўражанне, што запоўнена палова залы. Але калі сваё падсумаванне, пасля выступлення прафесара Сьрудкоўскага, закончыў дырэктар Дэркоўскі, і на развітанне дырэктар Бушко пералічваў увесь афіцыёз, згадваючы ў тым ліку і мяне, здаецца, што назваў ён усіх тады прысутных у зале.

**Аляксандр Вярбіцкі**

*фота аўтара*

**Яўген Міранovіч**

## Факты і міфы

Нядаўна адзін з нашых чытачоў, чалавек заслужаны для беларускай культуры на Беласточчыне, пабываючы ў рэдакцыі, усхваляваным голасам звярнуў нам увагу, што адмоўна пішучы пра рэжым Лукашэнкі „брудзім сваё гняздо”. Пасля шматлікіх лістоў, якія мы атрымалі і публікавалі ў мінулым годзе, а таксама кур'ёзнага допісу аднаго з дзеячаў, які засланіўся псеўданімам Стары беларус, наш сябра не сказаў нічога новага. Але, выслухаўшы ўсе яго аргументы, была нагода шырэй пагаварыць на тэму нашага „гнязда”.

Асноўны закід, які ставіцца палітыкам дэмакратычнай апазіцыі ў Беларусі і дзеячам дэмакратычнага накірунку на Беласточчыне — гэта антырасейскасць. Паводле нашых апанентаў, антырускі нацыяналізм праяўляе кожны беларус, які аднолькава ставіцца да рускай, польскай, нямецкай, літоўскай, яўрэйскай культуры і трошку яшчэ любіць сваю. Зразумела, што пры такой логіцы мышлення ў нашых сяброў узнікае часта пытанне, ці беларускія дэмакраты ўвогуле з'яўляюцца беларусамі. Найчасцей чуецца, што „нашы” — гэта праваслаўныя, а ўсялякія Пазьнякі, Шушкевічы, Грыбы, Кебічы — гэта католікі, а калі католікі — тады напэўна і палякі. Праваслаўнымі затое з'яўляюцца спадар Лукашэнка, ці спадар Мілошавіч, хаця ніхто іх яшчэ не хрысціў, а самі яны называюць сябе атэістамі. Зразумела, найменш важны тут светапогляд ці адносіны чалавека да рэлігіі. На нашым памежжы праваслаўным часта называе сябе чалавек, які дзесяткі гадоў не быў у царкве, а палякам — які на польскай мове аднае правільнай фразы скласці не зможа.

Часта пытаюцца нас: „Чаму нам не падабаецца аб'яднанне Беларусі з Расіяй, калі, напрыклад, Польшча ўступае ў структуры НАТО і Еўропа ўвогуле яднаецца?” Найпрасцей тут адказаць пытаннем на пытанне: „А чаму Рэспубліка Беларусь, як самастойная дзяржава, не магла б, напрыклад, сябраваць з Расейскай Федэрацыяй, падпісваць з гэтай суседняй краінай гаспадарчыя, палітычныя, ці якія-нябудзь дагаворы?” Ці дзеля таго, каб беларусы маглі сябраваць з расейцамі, трэба адбіраць ім дзяржаву, нацыянальныя сімвалы, мову, культуру, душу народа, кампраметаваць іх у свеце? Чаму толькі беларусам адабралі нацыянальныя герб і сцяг і нанава далі сталінскія сімвалы зняволення нацыі? У Расіі тым часам ніхто не чапае царскага двухгаловага арла ці бела-сіня-чырвонага сцяга. Пад гэтымі ж сімваламі армія генерала Уласава змагалася на баку гітлераўцаў з Савецкім Саюзам. Тым часам беларусам сказалі, што Пагоню і бел-

[працяг ☛ 4]

# Мы прачыталі

*Świat już się znudził Białorusią i zajął nowymi atrakcjami. Przez dwa miesiące światowa społeczność pasjonowała się tragedią Białorusi, po czym znalazła sobie nowe tragedie. Tragedia Białorusi nie polega na tym, że wygrał prezydent, a przegrał parlament, ani na tym, że podeptano zasady demokracji. Tragedia Białorusi polega na tym, że przetrwała tam, odrodziła się, istnieje wspaniała, świadoma patriotyczna elita narodu, i że ta wspaniała, świadoma patriotyczna elita narodu nie znalazła poparcia u większości białoruskiego społeczeństwa w sprawie niepodległości własnego kraju. Tragedia Białorusi polega na tym, że stworzona przez bieg wydarzeń cudowna koniunktura, cudowna szansa zbudowania odrębnej państwowości pojawiła się w chwili, gdy przygotowana była na nią białoruska elita, lecz gdy reszta społeczeństwa jeszcze do niej przygotowana nie została. Tragedia Białorusi polega na tym, że do uzyskania przez ten kraj niepodległości nie wystarczy najprawdopodobniej ani zwycięstwo parlamentu nad prezydentem, ani przywrócenie demokracji. Aby to się naprawdę mogło stać, białoruska elita będzie musiała wykonać tę samą ogromną pracę, która została dokonana w Polsce w ciągu setek lat. Póki tego nie uczyni, będzie skazana na upokorzenia i męczarnie, które nie dadzą się porównać z niczym. Bowiem elita może znieść wszystko — represje, prześladowania, nawet masakry — ale nie zniesie tego rodzaju osamotnienia i opuszczenia, które bierze się z obojętności społeczeństwa.*

*Gazeta Polska, nr 2*

* * *

*Łukaszenko jest w Rosji bardzo popularny. Tacy populiści zdobywają życzliwość ludzi. Umieją przemawiać, robią wrażenie energicznych, apelują do uczuć i namiętności. Jeżeli Rosja zjednoczy się z Białorusią, to muszą się odbyć nowe wybory prezydenckie. I kto wie, może Łukaszenko pokona naszego chorego biedaka. To smutne, ale i naprawdę zabawne,* — сказаў Юрый Левада, дырэктар Рускага асяродка даследавання грамадскай думкі.

*Gazeta Wyborcza, nr 11*

* * *

*Nie do końca jest jasne dlaczego dyktator Białorusi chce oddelegować znaczną część władzy do moskiewskiej centrali. Może pragnie prezydenckiego fotela w Rosji?*

*Życie, nr 11*

Какой красивый, молодой парень царствует нами, — будуць гаварыць „жэншчыны” ў Маскве.

* * *

*Stajemy się krajem drogim. Tona pszenicy w Chicago jest już o połowę tańsza niż na polskiej giełdzie, również o połowę tańszy jest cukier w Europie. Rosną koszty pracy, co odbija się na cenach. Kto robi zakupy, trudno mu uwierzyć, że inflacja jest taka, jak piszą w gazetach.*

*Gazeta Wyborcza, nr 4*

* * *

*Mamy już wojnę margaryny z masłem, teraz otwiera się front walki wina z wódką. A gdzie dwóch się bije, tam trzeci korzysta. Piwo? Nie! Jabol zwany także przez smakoszy J 23.*

*Polityka, nr 2*

* * *

*Bimber najczęściej pędzi się z pszenżyta. Pędzi się wszędzie tam, gdzie ludzie piją. Najwięcej w okolicy Czarnej Białostockiej, Michałowa, Gródka, Supraśla. Nic nie wskazuje na to, by zawód bimbrownika zamierał. Pędzenie przechodzi z ojca na syna. Nawet policja stwierdza, że bimbrownictwo to ciężka praca. Cały czas trzeba podtrzymywać ogień, przygotowywać zapasy drewna, wymieniać wodę, czując bliskość policji. Ostatnie zatrucia „Royalem” wpłynęły na zwiększenie popytu na „księżycówkę”.*

*Kurier Poranny, nr 10*

На нашу думку і паводле нашага вопыту патрабаванне на самагонку ўзрастае зауседы пасля павышэння цэнаў на гарэлку ў крамах.

* * *

*Car szybciej jeździł na saniach niż my pociągiem z Bielska Podlaskiego do Białegostoku,* — наракаюць пасажыры з Бельска.

*Kurier Poranny, nr 12*

* * *

*SLD nie interesuje się nami,* — stwierdza Sokrat Janowicz.

*Gazeta w Białymstoku, nr 11*

Ха, ха, ха...

* * *

*Zrozumiałem, że moja ojczyzna to Wielkie Księstwo Litewskie. Jestem Litwinem. W wieku 16 lat czułem się Polakiem. Może na starość zostanę Niemcem albo Żydem,* — сказаў Віктар Шалкевіч, бард з Гародні.

*Kurier Poranny, nr 9*

Віценька, з гэтага відаць, што савецкая нацыя табе не зусім чужая.

# З мінулага тыдня

**Беларускія лібералы** з Аб'яднанай грамадзянскай партыі лічаць, што намаганне аб'яднаць Беларусь з Расеяй з'яўляецца самым вялікім злачынствам у адносінах да беларускай дзяржавы. Такім чынам адказалі яны на пасланне расейскага прэзідэнта беларускаму кіраўніку дзяржавы ў справе паскарэння інтэграцыі абедзвюх краін. Імкненне правадыроў Расеі аб'яднаць сваю краіну з Беларуссю — гэта спроба выкарыстаць сітуацыю і за спіною беларускага народа заключыць дамову з дыктатарам, — заявілі афіцыйныя прадстаўнікі АГП.

**Маршалак Сейма Юзэф Зых**, спасылаючыся на прапанаваны Крамлём рэферэндум наконт аб'яднання Расеі і Беларусі, паведаміў, што сітуацыя ў Беларусі з'яўляецца прадметам вывучэння, у якім удзельнічаюць прадстаўнікі польскага парламента ў Парламенцкай Асамблеі Савета Еўропы. Прыгадаў ён, што на думку старшыні былога Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь **Сямёна Шарэцкага** апазіцыя таксама выказваецца за супрацоўніцтва з Расеяй, але пры ўмове захавання такіх прыярытэтаў як самастойнасць і міжнароднае прадстаўніцтва. **Лідэр РОП Ян Альшэўскі** прапанову Ельцына палічыў спробай зрабіць верагоднымі дзеянні, якія маглі б блакіраваць пашырэнне НАТО на ўсход. „Гэта акт уваходу на шлях аднаўлення імперыі”, — пракаменціраваў Альшэўскі.

**Міністр унутраных спраў і адміністрацыі Лешэк Мілер** пабываў у Беластоку на нарадзе, падчас якой прадставіў рэфарматарскую праграму барацьбы з арганізаванай гаспадарчай і гранічнай злачыннасцю. Першапланавым прыярытэтам міністр палічыў узмацненне ды паправу інфраструктуры і арганізацыі на ўсходняй граніцы, паколькі ў будучыні мае яна стаць граніцай Еўрапейскага Саюза. Дзеля еўрапеізацыі ўсходняй граніцы патрэбны немалыя фінансавыя сродкі, якія будуць папаўняцца замежнымі фондамі.

**У імя Хрыста паяднайцеся з Богам** — гэты заклік з паслання апостала Паўла да карынфянаў стаў лозунгам сёлетняга Тыдня малітваў аб адзінстве хрысціян. У Беластоку з гэтай нагоды служыліся экуменічныя літургіі ў праваслаўных і каталіцкіх храмах. Галоўныя набажэнствы адбыліся ў Свята-Духавай царкве і Фарным касцёле. Арxiепіскап **Сава** пажадаў вернікам абедзвюх канфесій ласк, спакою, еднасці і ўзаемаразумення, а мітрапаліт **Станіслаў Шымэцкі** заклікаў абараняць асноўныя хрысціянскія вартасці.

**Матуры** для вучняў сярэдніх школ праз пяць гадоў набудуць зусім іншую форму. Будзе гэта перш за ўсё дзяржаўны экзамен, які будзе праводзіцца па-за школай і перад чужой экзаменацыйнай камісіяй. Мэта новаўвядзення — давесці да таго, каб вынікі экзаменаў былі параўнальнымі і адлюстроўвалі сапраўдны стан ведаў выпускнікоў, і каб атэстат стаўся дадзеным непасрэдны доступ у ВНУ, — заявіла віцэ-куратар асветы ў Беластоку **Зофія Трамцыгер**. Рабіць змяненні прымушаюць стандарты Еўрапейскага Саюза, далучыцца да якога імкнецца наша краіна.

**Супрасль**, рашэннем Міністэрства здароўя, атрымаў статус курорта. Мястэчка, якога гісторыя налічвае пяцьсот гадоў, апрача ландшафтных асаблівасцей вылучаецца дасканалым мікракліматам. Праведзеныя спецыялістычныя даследаванні пацвердзілі існаванне лячэбнага мікраклімату і залежаў гразяў. Для захавання гэтых каштоўнасцей пачалася газіфікацыя і каналізацыя мясцовасці.

## Неўзабаве ў „Ніве”

- ☞ **Кандыдаты ў Сейм апамятаюцца і прыедуць** — сцвярджае Грыша Мароз.
- ☞ **Аб праваслаўных у Цяпліцах і беларускай выстаўцы ў Яленяй Гуры** — паведамляе Андрэй Гаўрылюк.

# Весткі з Беларусі

**Надзённая неабходнасць**

Расейскі міністр па супрацоўніцтве з краінамі СНД Аман Тулееў лічыць аб'яднанне Расеі і Беларусі надзённай неабходнасцю. Ён настойвае на патрэбу максімальна фарсіраваць працэс збліжэння, аднак лічыць, што ёсць сілы незацікаўленыя ў гэтым. Перашкодзіць інтэграцыі, на думку міністра, можа націск ЗША і іншых краін НАТО.

**Рэферэндуму не будзе**

У гэтым годзе ў Беларусі не будзе праводзіцца ўсенародны рэферэндум аб аб'яднанні з Расеяй, — заявіў намеснік старшыні Палаты прадстаўнікоў Нацыянальнага Сходу Уладзімір Канаплёў. Ён адзначыў, што рабочы дакумент, які, на яго думку, з'яўляецца пасланне прэзідэнта Расеі Барыса Ельцына кіраўніку Беларусі Аляксандру Лукашэнку, быў няправільна вытлумачаны некаторымі палітыкамі.

**Паслом быў, паслом застаўся**

Прэзідэнт Рэспублікі Беларусь падпісаў указ аб вызваленні Уладзіміра Сянько ад пасады міністра замежных спраў у сувязі з пераводам на іншую работу і назначэнні Івана Антановіча міністрам замежных спраў Беларусі. Былы міністр, які раней працаваў надзвычайным і паўнамоцным паслом у Варшаве і Лондане, праўдападобна неўзабаве ўзначаліць пасольства ў сталіцы Францыі.

**Банкір пад вартай**

14 студзеня г.г. была арыштавана старшыня Нацыянальнага банка Рэспублікі Беларусь Тамара Віннікава. Трапіла яна ў сферу ўвагі следчых органаў у час расследавання правапарушэнняў у Беларусьбанку. У органах пракуратуры ёсць даныя, што экс-кіраўнік Нацбанка нясе адказнасць за злоўжыванне службовым становішчам і нанясенне асабліва буйнога ўрону дзяржаве. Новым старшынёй Нацбанка прэзідэнт назначыў Генадзя Алейнікава.

**Амерыканцы вучаць дэмакратыі**

Формы ўдзелу грамадзян у вырашэнні грамадскіх і дзяржаўных спраў, а таксама ўплыў сродкаў масавай інфармацыі на дэмакратычныя працэсы абмяркоўваліся на канферэнцыі, якая праходзіла ў Менскім міжнародным адукацыйным цэнтры. Ініцыятарам яе правядзення быў Амерыканскі савет па супрацоўніцтве ў галіне адукацыі і вывучэння моў. У рабоце канферэнцыі прынялі ўдзел дэпутаты Нацыянальнага Сходу і Вярхоўнага Савета XIII склікання, прадстаўнікі няўрадавых арганізацый і маладзёжных аб'яднанняў, прадпрымальнікі і журналісты.

**Каштоўныя выданні**

У новым годзе выйшла з друку трэцяя кніга васемнаццацітомнай універсальнай Беларускай энцыклапедыі. Адкрываецца гэтае выданне фундаментальнымі артыкуламі „Беларусы” і „Беларусь”, у якіх прыведзены ўсе даныя аб грамадска-палітычнай сістэме беларускай дзяржавы ў адпаведнасці з новай рэдакцыяй канстытуцыі. Чытачы пазнаёмяцца з унікальным падарачным выданнем „Беларускі арнамент”, якое таксама выдадзена сёлета. Тут праведзены пераканаўчы аналіз вытокаў узнікнення беларускага арнаменту і традыцыі культуры Белай Русі.

**Новы канцэртны сезон**

У юбілейны, дзесяты сезон Дзяржаўны канцэртны аркестр пад кіраўніцтвам Міхаіла Фінберга падарыў сваім паклоннікам нямала новых праграм. Чарговая прэм'ера адбылася 21 студзеня г.г. у Тэатры музычнай камедыі. На суд гледачоў быў дадзены бенефіс Мікалая Скорыкава. У выкананні спевака прагучалі папулярныя песні савецкіх і замежных кампазітараў 50—70-х гадоў, якія былі аб'яднаны ў праграму пад назвай „Залаты шлягер”. У канцэрце выступіў ансамбль „Камерата” і лаўрэаты міжнарожных конкурсаў бальных танцаў Алена і Васіль Ляшэнкі.

**Радыяцыйны груз**

Беларускія мытнікі затрымалі ў раёне Ашмянаў аўтамабіль з грузам, радыяцыйнае выпраменьванне якога ў пяцьнаццаць разоў перавышала натуральны фон. Радыеактыўны грузавік перавозіў лом каляровых металаў з Бранскай вобласці Расейскай Федэрацыі ў Калінінградскую вобласць. Гэта ўжо не першы выпадак, калі злачынныя групы прабуюць перавезці радыеактыўныя грузы праз тэрыторыю Беларусі.

# У Бельскім доме культуры...

...штогоду ў калядны перыяд праходзяць вечары калядак. На сцэне прэзентуюцца праваслаўныя і каталіцкія прыхадскія хоры, а таксама свецкія калектывы. Сёлета былі аж два вечары калядак: 10 студзеня — перад публікай выступілі дарослыя, а 17 — дзеці. У першы вечар, апрача царкоўных і касцельных пеўчых, спявалі „Васілёчкі" і Хор польскай нацыянальнай песні, якія працуюць пры БДК. У другі — па дзве калядкі праспявалі аж 27 дзіцячых груп. Абодва вечары карысталіся вялікім поспехам у гледачоў.

* * *

16 студзеня прайшла навагодняя сустрэча бурмістра з дырэктарамі культурных і асветных устаноў горада, з настаяцелямі каталіцкіх і праваслаўных прыходаў, з шэфамі прадпрыемстваў і фірмаў, якія дзейнічаюць у Бельску і на Бельшчыне. На сустрэчу было запрошаных каля ста асоб.

— Я лічу, што мінулы год для нас быў нядрэнны, — звярнуўся да прысутных бурмістр Андрэй Сцепанюк, — развіваліся нашы фірмы, наглядаўся рост прадпрымальніцкіх настрояў, многа цікавага рабілася ў культуры. Найбольш відныя дасягненні, гэта паспяховыя старанні суполкі „Унібуд" трапіць на біржу і вылучэнне культурнага праекта „Бельск — сэрца памежжа" ў агульнапольскім конкурсе „Малыя айчыны — традыцыя для будучыні".

Такога тыпу сустрэчы, закончаныя бакалам шампанскага і салодкім пачастункам, арганізуюцца Гарадской управай трэці год.

* * *

Запланаваны на 19 студзеня вечар гурту „Маланка" — адкладзены на май. **(ак)**

# Шукай ветру ў полі!

Ужо другі раз дарожныя „піраты" звалілі плот Сяргею Р., жыхару вёскі Кузава.

Жыве ён якраз на скрыжаванні дарог. За першым разам, а было гэта пад восень мінулага года, нейкі п'яніца паламаў агароджу пры сядзібе яго маці, Параскевы Р. На „Сільвестра", іншы хуліган, не „вырабіўшыся" на скрыжаванні, „заехаў" у плот з другога боку, ад царквы. Ляжаць паламаныя платы пры дарозе. Кожны праезджы толькі галавою круціць. Гаспадар шукае вінаўных, каб шкоду нехта кампенсаваў, агароджу паправіў. Ды каго зараз знойдзеш? Шукай ветру ў полі, чалавеча Божы!..

Нядаўна прыйшлося мне быць у адной кампаніі, у якой якраз і загаварылі пра кузаўскія дарожныя аварыі. Адзін з маіх субяседнікаў так канстатаваў гэтыя здарэнні: „Чалавеку хутка можна нагу падставіць, шкоду прынесці, горш выручаць прыходзіцца" (так гаварыў аб „піратах", разумеецца).

А я пытаю сваіх паважаных аднавяскоўцаў: хто адрамантуе паламаную агароджу Сяргею Р. ды іншым, якія вымушаны былі траціць час і грошы на новыя платы? Ці гэта не свінства?! **(ус)**

# Баль у гміне

Паехаў войт з гміны
Справу афармляці,
А працаўнікі тым часам
Сталі баляваці.
Пакойчык невялікі,
У ім другія дзверы.
Зачыніцца можна
Ды напіцца звыш меры.
Калі нажлукціўся
Адпачыць ужо можна,
Крэслы там мяккія
І канапа выгодная.
А як прыйдзе дзядзька
Каб аформіць справу
Нехта ўжо п'яны
Ды ляжыць пад лавай.
Тады перапрашаюць,
Заўтра прыйсці раяць,
Так у самаўправе
Пра наведвальнікаў дбаюць.
Гэта я падгледзеў
У нашай мясціне.
Яны цяпер будуць
Крыўдаваць на мяне.

**Мікалай Лук'янюк**

# Аўтафуры заязджаюць у Орлю

У Орлі нядаўна пачала працаваць фірма, якая займаецца наладжваннем вытворчасці, скупкай і экспартам вырабаў народнага дэкаратыўна-прыкладнога мастацтва і прадметаў хатняга ўжытку, якія з саломы, ракіты, ляшчыны, бярозавага ламачча і драўнінных адходаў выконваюць жыхары навакольных вёсак.

Расказвае працаўнік гэтай фірмы **Ян Ходак:** „Купляем многа тавараў у мясцовых людзей, перш за ўсё сялян і пенсіянераў, якія такім чынам зарабляюць грошы і папаўняюць свой сціплы дамашні бюджэт. Плацім ім па дамоўленасці. Маем таксама пастаўшчыкоў у ваколіцах Бранска, Нурца, Войнаўкі, Гайнаўкі. Вырабы народных умельцаў высылаем у Нямеччыну, Аўстрыю, Галандыю і Вялікабрытанію".

Наведаў я склад у Орлі, дзе чакаюць высылкі на заходнееўрапейскія рынкі шматлікія вырабы народнага дэкаратыўна-прыкладнога мастацтва. З бярозавых галінак, ракіты і саломы рукі вясковых майстроў вычароўваюць фігуркі аленяў, казлоў, бараноў, буслоў, зайцаў, курапатак, дэкаратыўныя вязкі, дрэўцы, вянкі, гнёзды для кветак, вазоны, кошыкі, талеркі, збанкі і іншы посуд. Ляшчына служыць матэрыялам для вырабу рознага роду стэлажаў і драбінак для ліян, а з кавалкаў драўніны атрымоўваюцца шпакоўні, кармушкі, лавачкі, столікі.

Новаўтворанае прадпрыемства выкарыстала пустуючы даўжэйшы час стары, адрамантаваны склад Гмiннага кааператыва (GS) у Орлі. Дзякуючы разумнаму прадпрымальніку многія людзі знайшлі крыніцу заробку ў складаных умовах разгулу беспрацоўя. Такім чынам карысць маюць адыдва бакі — і работадаўца, і саматужнікі. А загружаныя вырабамі вялікія аўтафуры (TIR-у) выязджаюць з Орлі за граніцу.

**Міхал Мінцэвіч**

# Палац вернецца?

Той, хто некалі пабываў у Белавежы, напэўна звярнуў увагу на трохвугольны пляц (старыя белавежцы называюць яго „клінам"), абмежаваны вуліцамі В. Габец, Застава і Паўднёвая. Тут размешчаны геесаўскія рэстаран і гасцініца „Зуброўка", пажарнае дэпо і прадуктовая крама. Ёсць яшчэ і лазня, але яна ўжо здаўна не працуе. Частка грунтаў з боку Заставы і Паўднёвай, можна сказаць, зусім невыкарыстана. І, вось, адносна іх паявіўся апошнім часам даволі талковы план яго добраўпарадкавання.

Мясцовы Гмінны кааператыў „SCh" хоча наладзіць суполку з міжнароднай фірмай AMS Enterprise, з якой на згаданым месцы збудуе новую гасцініцу, якая будзе напамінаць звонку царскі палац, які некалі існаваў у Белавежы. Прадбачваецца таксама ўзнікненне тут басейна для плавання, тэніснага корта, бальнеалагічных памяшканняў для лячэння гразямі. У адну сістэму ўвойдуць ужо існуючыя аб'екты. Замежны інвестар хоча выдаць на рэалізацыю плана каля 2 мільёнаў долараў, абавязвацца таксама завяршыць пабудову пажарнага дэпо. Новы аб'ект мае даць занятак 50-70 асобам, а гэта пры мясцовым беспрацоўі даволі аптымістычная вестка.

Мясцовая Рада гміны дала ўжо дазвол на перагаворы ў справе абмену грунтаў з Гмінным кааператывам так, каб яны сталі ўласнасцю новай суполкі. Затым, усё на добрай дарозе!

**Пётр Байко**

# Цана па дамоўленасці

Назбіралася ў мяне некалькі гадавых камплектаў „Нівы". Такая куча паперы займае неверагодна многа месца — у шафе, пад пісьмовым сталом, у куце — і моцна нервуе жонку. Куды больш зручна захоўваць газеты пераплеценыя. Яны тады больш сціснутыя і ў цвёрдай вокладцы так хутка не драхлеюць.

Загрузіў я „Нівамі" палову машыны і павёз у пераплётную майстэрню. Там прыняла іх ад мяне працаўніца. Паказала матэрыял на вокладку, сказала, каторы гатунак лепшы і параіла яшчэ на рагі і карашок палатно.

— А колькі гэта будзе каштаваць? — праявіў я праніклівасць і практычны падыход.

— Дзесьці так, больш-менш, пятнаццаць злотаў за год плюс VAT, — адказала жанчына. Адказ, аднак, падаўся мне мала канкрэтным і я папрасіў яго ўдакладніць, намякаючы прытым на высакаватую цану.

— Што, пятнаццаць злотаў за такую работу, гэта дорага? — здзівілася, а можа і крыху абурылася кабета. Але тут жа дабавіла: — Ну, няхай вам будзе па трынаццаць плюс VAT.

Дзякуй ёй, што не палічыла па семнаццаць. Магла ж.

**М. В.**

# Варта над гэтым падумаць

У мінулым годзе вуліца ў Кузаве асвятлялася да поўначы, а нават і раней выключаў „аўтамат" асвятленне. Вёску ахутвала цемра. Члены мясцовага самаўрада вырашылі, што спячым кузаўцам вулічнае асвятленне непатрэбнае. Хачу прытым адзначыць, што ў нашай вёсцы многія служачыя (машыністы і кандуктары) вымушаны ісці на працу ў розную пару. Ды кожнаму чалавеку спатрэбіцца паехаць у Беласток ці Варшаву за сваімі справамі. Ідзеш на цягнік у тры гадзіны раніцы ці нават каля чацвёртай, а тут хоць ты ў морду таўчы! Нічога не відна. Некаторыя мае аднавяскоўцы звярталіся ў Гмінную ўправу ў Чаромху, каб паменшыць колькасць лямпаў на слупах (напрыклад, напалову), а другая палова каб гарэла ўсю ноч. Мясцовы самаўрад на гэта не згадзіўся. Чаму? Эканоміка тут ні пры чым. Ці сто лямпаў (для прыкладу) будзе гарэць праз чатыры гадзіны, ці пяцьдзесят праз восем гадзін, гэта ж адно і тое самае. На чым залежыць войту ці некаму электраманцёру, каб не пайсці на руку сваім грамадзянам?

У Кузаве жывуць нядрэнныя людзі. Неаднойчы падтрымоўвалі яны мясцовае начальства ў грамадскіх пачынах, ды іншых мерапрыемствах. Спадар войт добра аб тым памятае. Таму спадзяюся, што скрупулёзна разгледзіць справу вулічнага асвятлення ў Кузаве і вырашыць праблему ў карысць жыхароў.

**Уладзімір Сідарук**

**Дня 15 студзеня 1997 г.**
**пасля доўгай і цяжкай хваробы адышла з гэтага свету**
**вучаніца І „б" класа Беларускага ліцэя ў Гайнаўцы**
**АННА ДЫНКОЎСКАЯ.**
**Словы спачування бацькам і брату выказваюць вучні і працаўнікі Гайнаўскага ліцэя.**

**Дня 15 студзеня 1997 г.**
**пасля доўгай і цяжкай хваробы памёр на 18-ым годзе жыцця**
**вучань класа III „ц" Агульнаадукацыйнага ліцэя з беларускай мовай навучання ў Гайнаўцы**
**СЛАВАМІР КОСЬКА.**
**Словы спачування ў напаткаўшай бядзе бацькам Славаміра выказваюць вучні і працаўнікі ліцэя ў Гайнаўцы.**

# Сумнае, аднак праўдзівае!

3 студзеня г.г. у кіёску на пероне ў Чаромсе ўжо зранку не было „Нівы". Раскупілі. Як мне сказала прадаўшчыца Галіна Шатыловіч, дзвесце экзэмпляраў мігам разышлося.

Пазваніў я ў рэдакцыю, каб дабавачна „падкінулі" яшчэ туды з пяцьдзесят экзэмпляраў. Не было такой магчымасці. Усё раздзелена.

А тым часам на пошце ў Чаромсе залежвалася каля дваццаці экзэмпляраў пры „акенцы" і такая ж колькасць у пісьманосцаў. Чаму ж так дзеецца даражэнькія? Няўжо ж людзі не ведалі, што „Ніву" можна купіць у пісьманосца? А калі так, дык хто тут вінаваты?

Разумеецца, што такія недахопы выступаюць раз у год, калі тычыцца „Нівы" з календаром. На штодзень кіёск на пероне атрымоўвае ўсяго чатыры экзэмпляры. Бывае, што і з гэтага трэба вяртаць.

Сумнае гэта, аднак праўдзівае.

**(ус)**

# Факты і міфы

[1 ☞ працяг]

чырвона-белыя колеры насілі на рукавах жаўнеры беларускай Самаахові і таму не могуць яны быць дзяржаўнымі сімваламі. Затое могуць быць імі сімвалы энкавэдзістаў, якія ў Курапатах стралялі ў патыліцу беларускім сялянам і інтэлігентам.

Узнікаюць таксама іншыя пытанні. Ці палякі, уступаючы ў НАТО, плануюць рэферэндум у справе дзяржаўнай мовы; ці калі там ужо будуць, пачнуць паміж сабою гаварыць на англійскай ці нямецкай мовах; ці перастануць вучыць сваіх дзяцей пра Грунвальд, Кірхольм, Вену, Хоцім, пра Мешкаў, Лакеткаў, Зыгмунтаў Вазаў, Сабескіх, Касцюшкаў, Пілсудскіх? Палякі ў НАТО, ці без НАТО, астануцца палякамі. А беларусам толькі паказаліся шанцы, каб маглі яны астацца беларусамі, як кожная нацыя, а зараз чорная сотня затаптала ўсе прамені надзеі. Гэта вельмі добра, што ўсе беларусы ведаюць рускую мову, але адначасова ненармальнае тое, што не ведаюць яны сваёй роднай.

Я маю таксама поўную свядомасць, што немагчыма пераканаць нашага тутэйшага чалавека, што сярод некалькіх соцень тысяч каталікоў у Рэспубліцы Беларусь, вялікая іх частка адчувае сябе беларусамі і што яны з'яўляюцца сапраўднымі патрыётамі Беларусі. Палітычная рэчаіснасць ёсць таксама больш складаная, чым гэта бачыцца ўсялякімі прапагандыстамі. Продкі Зянона Пазьняка ў міжваенны перыяд змагаліся з санацыйным рэжымам за тое, каб беларусы маглі быць беларусамі, а не „крэсовым людэм польскім", пасля памёралі ў радах савецкай арміі ў барацьбе з фашыстамі. Шушкевіч і Пазьняк ніколі не былі палітычнымі сябрамі. Вячаслаў Францавіч Кебіч — таксама каталік — першы чым Лукашэнка задумаў аддаць Маскве Бацькаўшчыну. Сёння актыўна дзейнічае ён у гэтым напрамку побач з прэзідэнтам, калі тысячы праваслаўных беларусаў вядуць адкрытае змаганне за вольную Беларусь. Шушкевіч пасля славутага, кампраметуючага Беларусь ва ўсім свеце лукашэнкаўскага рэферэндуму з мая 1995 года галасаваў за адабрэнне яго вынікаў. Падзелы ў Беларусі не супадаюць з рэлігійнымі. І сярод каталікоў, і праваслаўных большасць мае савецкае ўяўленне нацыі. Бараніць Беларусь і беларускасць выходзяць на вуліцы студэнты і інтэлігенцыя. Пакуль што гэта меншасць, але вельмі надзейная меншасць. А пры нагодзе: калі большасць праваслаўных у Беластоку заядла называе сябе палякамі, хаця іх продкі былі беларусамі, чаму тады каталікам у Беларусі адмаўляюць яны права быць беларусамі? Яны нават не асімілянты, як праваслаўныя палякі ў Беластоку, а беларусы з дзеда-прадзеда.

Гэта таксама праўда, што ў часе, калі Шушкевіч быў старшынёй Вярхоўнага Савета, дзесяткі ксяндзоў з Польшчы пачалі працу ў Беларусі, пераўтвараючы касцёлы ў асяродкі польскай нацыянальнай агітацыі. Але ва ўмовах дэмакратыі гэта было непазбежнае. Вінаватая тут савецкая палітычная сістэма, якая не паклапацілася пра выхаванне сваіх беларускіх, так праваслаўных, як і каталіцкіх святароў.

Добра было б, калі б беларусы, гаворачы пра Беларусь, пачалі ў канцы гаварыць пра факты, адкідаючы ўсе міфы, якімі кормяць нас чужыя цэнтры інфармацыі і прапаганды.

**Яўген Міранові́ч**

# Польскія палітыкі аб аб'яднанні Расіі і Беларусі

19 студзеня г.г. у папулярнай радыёперадачы „Śniadanie z Radiem Zet" вядомыя польскія палітыкі, правячыя і апазіцыйныя, абмяркоўвалі найважнейшыя актуальныя пытанні замежнай палітыкі. Не абышлі яны маўчаннем нядаўняга пасланне прэзідэнта Барыса Ельцына беларускаму прэзідэнту Аляксандру Лукашэнку, у якім прапанавалася правядзенне рэферэндуму аб аб'яднанні Расіі і Беларусі. А вось іх выказванні:

**Дарыюш Расаці** — міністр замежных спраў: — Інтэграцыя краін, якая праводзіцца згодна з дэмакратычнымі працэдурамі і па неабмежаванай волі абодвух грамадстваў і якая мае на мэце эканамічную інтэграцыю, не павінна нікім асуджацца. Але калі гэта адбываецца ў краіне, дзе дэмакратычныя інстытуты яшчэ надта кволыя, маю тут на ўвазе Беларусь, тады мы з вялікай асцярожнасцю павінны ставіцца да такога працэсу.

**Анджэй Аляхоўскі** — былы міністр замежных спраў: — Я гэтае пытанне бачу больш востра. Лічу, што аб'яднанне Беларусі і Расіі будзе нядобрым для нас. А менавіта таму, што некалькі гадоў беларускай самастойнасці сфарміравала пэўную групу людзей, якія сталі прыхільнікамі ідэі незалежнасці і будуць старацца яе адстойваць. У сувязі з гэтым там будзе нестабільная сітуацыя. Мабыць, не будзе там мільённых дэманстрацый, мільёных хваляванняў, але будзе праблема. Частка людзей будзе намагацца аднавіць незалежнасць. Мы павінны, па меры нашых магчымасцей, старацца (перашкодзіць мы ніколі не зможам) процідзейнічаць гэтаму, раскрываючы перад Беларуссю верагодную, разумную перспектыву лепшага, самастойнага функцыянавання гэтай краіны без Расіі. Будзем уважліва наглядаць за сітуацыяй і сігналізаваць эвентуальныя парушэнні дэмакратычных стандартаў. Тады будзем заяўляць аб нашым афіцыйным становішчы.

**Браніслаў Герэмак** — старшыня сеймавай Камісіі па замежных справах: — Рашэнне аб аб'яднанні Расіі і Беларусі, аб рэферэндуме на гэты конт было прынята на днях. Гэта не толькі для Польшчы нядобрае рашэнне. Яно нядобрае і для Расіі, і для Беларусі. Так сур'ёзных рашэнняў не прымаецца пры складаным запаленні лёгкіх. Паўстае тады пытанне: хто цяпер мае ўладу ў гэтай вялікай краіне нашага рэгіёна, у дзяржаве, ад якой у значнай меры залежыць сусветны мір? На гэтае пытанне я не ўмею адказаць.

**Марэк Сівец** — міністр у Канцылярыі Прэзідэнта: — Беларуская праблема — гэта толькі адзін элемент новай сітуацыі, да якой нам трэба хутка прызвычаіцца. З усходу — і з Расіі, і з Беларусі, і мабыць, з іншых месц — будуць выконвацца жэсты, якія, па-першае: могуць нас палохаць, па-другое: мы павінны вельмі ўласціва ацэньваць ступень такой пагрозы, а па-трэцяе: мы мусім ўвесь час, прытрымоўваючыся інтарэсаў нашай дзяржавы, гаварыць выразна: не можа быць так, каб стан здароўя аднаго з палітыкаў, нават калі б гэта быў прэзідэнт Расіі, мог уплываць на тыя працэсы, якія нас датычаць. Мы павінны падрыхтавацца да таго, што не раз будзем здзіўлены сенсацыямі з таго боку, паколькі расіяне будуць рабіць усё, каб замаруджваць рашэнне аб пашырэнні НАТО. Не мае значэння, ці дзеля гэтага будуць выкарыстоўвацца Беларусь, шпіёнскія папкі ці іншыя метады. Папросту, трэба ведаць, што такое нешта будзе адбывацца.

**Апр. (вл)**

# Універсальная энцыклапедыя

У мінулым годзе ў Мінску пачала выходзіць універсальная Беларуская энцыклапедыя. Запланавана яна на 18 тамоў і будзе ў ёй змешчана каля 80 тысяч тэрмінаў. Прыгадаем, што першая універсальная Беларуская савецкая энцыклапедыя, выдадзеная ў 1969—1975 гадах у 12 тамах, уключала каля 35 тысяч тэрмінаў, у якіх больш за сорак працэнтаў інфармацыі было прысвечана беларускай тэматыцы. У адрозненне ад папярэдніцы цяперашняя энцыклапедыя больш увагі адводзіць сюжэтам пра найважнейшыя падзеі гісторыі і сучаснага грамадска-палітычнага жыцця, пра выдатных дзеячаў усіх часоў і народаў. Многія агульныя звесткі падаюцца ў цеснай сувязі з Беларуссю, з яе навукай, гісторыяй, культурай, мастацтвам. Новая энцыклапедыя вылучаецца многімі каляровымі і чорнабелымі здымкамі, малюнкамі, картамі, схемамі.

У першым томе Беларускай энцыклапедыі*, які распрацоўваўся яшчэ пад кірункам пакойнага Барыса Сачанкі, знаходзім больш звестак пра беларусаў у Польшчы і яе арганізацыі (напрыклад: Аб'яднанне беларускіх студэнцкіх арганізацый Заходняй Беларусі і эміграцыі ў Празе, Англа-беларускае таварыства), а біяграфічныя даведкі пра эміграцыйных грамадска-палітычных дзеячаў і пісьменнікаў падаюцца без палітызаваных эпітэтаў, якія былі характэрныя савецкім выданням. У згаданым томе ўпамінаюцца, між іншым, Мікалай Абрамчык, Антон Адамовіч, Кастусь Акула, Наталля Арсеннева. У ім знайшлося таксама месца для замоўчваных у ранейшых лексіконах, „рэакцыйных" паводле савецкай наменклатуры, заходнебеларускіх дзеячаў і літаратараў. З гэтай групы прадстаўлены Фабіян Абрантовіч, Вінцук Адважны, Фабіян Акінчыц (артыкул пра яго напісаў Яўген Вапа), Павел Аляксюк, Францішак Аляхновіч.

Сучасныя польска-беларускія дачыненні ілюструюць артыкулы пра гістарычныя факты і асобы з навейшай гісторыі (Андэрса армія, Уладзіслаў Андэрс, Армія Людова, Армія Краёва), звесткі пра навукоўцаў, якія займаліся вывучэннем узаемадачыненняў у галіне мовы (Антаніна Абрэмбска-Яблонская, Мсціслаў Аляхновіч), гісторыі (Станіслаў Аляксандровіч, Ежы Антаневіч) і археалогіі (Уладзімеж Антаневіч).

Відаць, Беларуская энцыклапедыя шырэй прадставіць беларускую нацыянальную меншасць у Польшчы. У першым томе, на 510 старонцы змешчаны артыкул пра паэтэсу Надзею Артымовіч, апрацаваны Янкам Саламевічам. Можна спадзявацца, што ў чарговых тамах знойдуцца біяграфічныя даведкі пра іншых „белавежцаў", а таксама звесткі пра беларускія арганізацыі ў Польшчы і іх дзеячаў.

**Віталь Луба**

**Беларуская энцыклапедыя*, т. I, *А — Аршын*, Мінск 1996, сс. 548.

# НАШЫ КАРАНІ

**XCVI. Славуты заблудавянін**

Папярэдне мы пісалі пра беларускіх друкароў Івана Фёдарава (Федаровіча) і Пятра Мсціслаўца, якія заснавалі ў Заблудаве першую на Падляшшы друкарню і выдалі тут „Евангелле вучыцельнае" (у 1569 г.) і „Псалтыр" з „Часасловцам" (у 1570 г.). Пры тым успомнілі пра іхняга вучня і памочніка Грыня Івановіча з Заблудава. Сёння пра яго крыху шырэй.

Грынь, інакш Грыгорый ці па-народнаму — Рыгор, мабыць быў пляменнікам ці далейшым сваяком манаха Супрасльскага манастыра Грыгорыя Івановіча. Інак Грыгорый — гэта адукаваны чалавек, ён нёс паслушанне ў манастырскай скрыпторыі і ў 1520 годзе законччыў перапісванне зборніка, у які ўвайшлі „Супрасльскі летапіс", „Кіева-Пячэрскі пацярык" і іншыя творы і ў канцы свае працы падпісаўся: „Рукоделье многогрешного раба Божия Григория Ивановича". Мабыць, Івановічы былі праваслаўнымі баярамі на службе ў Хадкевічаў, уладальнікаў Заблудава, і валодалі нядрэннай на той час адукацыяй.

Пасля з'яўлення ў Заблудаве Фёдарава і Мсціслаўца, відаць за справай гетмана Рыгора Хадкевіча, Грынь быў прыстаўлены вучнем да друкароў. Магчыма, што гетман разлічваў на яго як на будучага самастойнага заблудаўскага друкара. Юнак быў здольны, працавіты і паслухмяны, здабыў прыхільнасць асабліва ў Фёдарава. Пасля смерці Хадкевіча ў 1572 годзе Фёдараў з Івановічам падаліся ў Львоў, там заснавалі першую на ўкраінскіх землях друкарню, а ў той час Фёдараў накіраваў Грыня да львоўскага майстра Лаўрэнція Пухалы на дасканаленне яго ўменняў у жывапісе, сталярстве, разьбе па дрэву, выразанню са сталі літар і іншых рэчаў неабходных у друкарскай справе. Грынь займаўся ў Пухалы каля трох гадоў. Затым яны з Фёдаравым падаліся да славутага апекуна праваслаўя і мецэната беларускай і ўкраінскай культуры князя Канстанціна Астрожскага ў яго родавую сядзібу Астрог на Валыні і там заснавалі друкарню. Грынь нарыхтаваў шрыфт і аздобы да розных выданняў, а найважнейшае — да „Астрожскай біблії" (выйшла ў 1581 г.) — аднаго з самых выдатных дасягненняў тагачаснага ўсходнеславянскага друкарства.

Пасля таленавітага заблудавяніна запрасілі ў Вільню ў сваю друкарню Мамонічы, і ён там у 1582-83 гадах нарыхтаваў два віды шрыфту. Гэтым шрыфтам віленскія друкары карысталіся болей за сто гадоў і надрукавалі мноства выданняў, у іх ліку самы выдатны помнік беларускага праваўства — „Статут Вялікага княства Літоўскага" 1588 года. З Вільні Івановіч вярнуўся ў друкарню князя Астрожскага і там доўга яшчэ працаваў, выдатна садзейнічаючы пашырэнню праваслаўных багаслоўскіх кніг і палемічных твораў у абарону праваслаўя.

Шкада, што дагэтуль праваслаўная грамадскасць Беласточчыны не патрапіла належна ўшанаваць памяць свайго выдатнага сына, Грыня Івановіча, помнікам, прысваеннем яго імя школе ці хаця бназваннем ягоным імем вуліцы ў Заблудаве.

**Мікола Гайдук**

БЕЛАВЕЖА

СТАРОНКА ЛІТАРАТУРНА-МАСТАЦКАГА АБ'ЯДНАННЯ
№ 445

Рэдактар: Сакрат ЯНОВІЧ

Зьніч

## Маўчаньне павадыра

... народзе, даруй,
я павёў цябе ў сьмерць...
у сечы крывавыя...
ў жах папялішчаў...
паселішч і сэрцаў згасаюць абліччы
ў віру, што ўзарала вякоў
кругаверць...

... вяртаюцца Ангелы з выраю
ў вырай ...
сьпявае сярпа і мяча вастрыё ...
вяртаецца Каін... вяртаецца Ірад... —
і ўсё ў акаяннае сэрца маё ...

... о, Госпадзе,
колькі іржавых цьвікоў
загнаў я ў Тваё незагойныя раны!..
чужы мне, як послух,
матыў пакаянны ...
да шчырай малітвы —
халодная кроў...

Алесь Чобат

## Тут

Іду па разбітым ушчэнт тратуары.
Не малады ўжо, яшчэ не стары.
Спыніўся гадзіннік на вежы на Фары.
І хлусяць нават календары...

Пан Бог не ратуе і не карае —
што маіх ворагаў, што мяне.
Край гэты ўсё жыццё памірае
і добра яму ляжаць у труне.

Эўгеніюш Шульборскі

* * *

Боязь прапала?
і людцы ўпаршывелыя
столькі таго і ўмеюць
што глядзець у тхлань
ды чакаць —
пазбыўшыся ўжо
цела і душы
толькі чакаць
ігруш на вярбіне —
Боязь прапала
хоць Госпад бачыць і грыміць
сонца яшчэ коцячы
па небасхіле —

*Пераклаў С. Яновіч*

Віктар Швед

# Пратэст

***(Апавяданні з маёй маладосці)***

Планаваная Гітлерам „маланкавая вайна” на вялікае шчасце не здзейснілася. Гарады і сёлы Нямеччыны пачалі адчуваць крызісны недахоп рабочай сілы. Папаўнення гэтай сілы гітлераўцы шукалі сярод паняволеных народаў.

На пачатку 1942 года пачалася ў нас масавая вывазка людзей, асабліва моладзі, на нявольніцкую працу ў Нямеччыну. Гэтая акцыя не абмінула і маёй вёскі Мора. Колькі ж аднавяскоўцаў, маіх сяброў і сябровак, паехала туды, некаторыя ўжо беззваротна, загінуўшы недзе ў віры страшэннай вайны.

Абмінуў мяне лёс гэтай моладзі толькі таму, што быў я адзіным гаспадаром пры кульгавым, непрацаздольным, бацьку. Мне споўнілася тады семнаццаць гадоў, а майму брату, Пецю, толькі трынаццаць. Мелі мы адну, маладую кабылку. Зямля ў нас даволі цяжкая ў апрацоўцы і адзін конь плуга не пацягне. Таму трэба было спрагацца з порсткай кабылкай аўдавелай маёй цёткі Аляксандры, якая засталася з тройкай малых дзяцей і неабходна было ёй, таксама, дапамагаць у гаспадарцы.

Вывазку ў невядомае маіх аднавяскоўцаў перажыў я так балюча, што не мог гэтага не выказаць у вершы. Напісаў верш на рускай мове, таму, што вяскоўцы, асабліва старэйшыя, лепш ведалі рускую, чымся літаратурную беларускую, бо яны яшчэ вучыліся ў царскай прыходскай школе. Пісаў я яго з думкай, што пазнаёмяцца з ім жыхары Мора. Таму хочацца мне прыгадаць сёння змест гэтага верша:

**Друзьям на прощание**

Расцветает жизнь наша младая,
Как созревший цветок отцветёт.
Наша юность прекрасна, златая,
Лишь в печальное время идёт.

Мы наделены горькой судьбою,
Довелось жить в недобрый нам час,
Когда мир весь охвачен войною,
Новых жертв вымогает от нас.

Разъярённый наш враг выгоняет
Вас отсюда, с деревни родной.
Кто родимый дом отчий бросает,
Слёзы льёт он с печалью, тоской.

Слышу горький ваш плач и рыдания,
С вас никто в день отъезда не рад.
Дорогие друзья, до свидания,
Дай вам Бог возвратиться назад.

Перапісаў я яго прыгожа, а галоўнае разборліва і пачаў задумоўвацца, што зрабіць, каб стаўся ён агульнадаступным. З братам майго швагра, Юркам, пастанавілі мы вывесіць гэты верш на сцяне будынка няздзеючай школы, у якой я не так даўно вучыўся. Не мелі мы кнопак і таму давялося прыбіць верш да сцяны чатырма вялікімі цвікамі. Зрабілі мы гэта ноччу, каб ніхто не ўгледзеў нас. Верш не быў падпісаны маім прозвішчам, аднак і так усе ў вёсцы ведалі, хто тут піша вершы. Пацяшала мяне, што на працягу трох дзён красаваўся ён на сцяне школы. Потым нехта зняў, зрабіўшы тое далікатна, не пакідаючы на цвіках аніводнага кавалачка паперы і, відавочна, забраў з сабою.

Па сваёй наіўнасці не ўсведамляў я таго, што верш той мог нехта паслужліва перадаць паліцаям у Орлі.

Верш гэты захаваў я ў памяці і сэрцы да сёння.

Сакрат Яновіч

# Умова перакладу: роўнаталенавітасць

У новапачатай намаганнямі Беластоцкага аддзела Саюза польскіх пісьменнікаў Святаянскай паэтычнай серыі з'явілася кніжыца вершаў Галіны Тварановіч *W nieba utulenie**, у польскім перакладзе Яна Леанчука. Як бы следам за падобным выданнем твораў Яна Чыквіна *Odpoczynek przy wyschniętym źródle*. Беласток са сваім польска-беларускім творчым асяроддзем мае шанц на тое, каб стацца унікальным цэнтрам сужыцця двух літаратур, распаўсюджання беларускай на арэале польскай мовы і польскай літаратуры на прасторах беларушчыны. Прафесійныя магчымасці дзеля гэтага існуюць, а ўся тэхнічна-фінансавая рэшта будзе залежыць ад палітыкі, ад тых, у чыіх руках грошы і друкарні. Ці хопіць ім неабходнай дзеля гэтага высокае культурнасці, без якое цяжка спадзявацца на сур'ёзныя вынікі?!

Арыгінальнасць паэзіі Галіны Тварановіч не столькі ў яе фармальных пошуках, колькі менавіта ў інтэлектуальнай глыбіні. Гэта характэрная рыса творчасці маладабеларускіх аўтараў наогул, народжаных і ўзгадаваных часта ўжо ў інтэлігенцкіх сем'ях. Прычым у гарадскіх або, прынамсі, у мястэчковых, што мае сваё светапогляднае ды і ментальнае значэнне. Няма ў іх таго, абрыдлага нам, гарба вясковасці, абавязкова закамплексаванай, як прыкры набытак ад цяжкага жыццёвага лёсу.

Арыгінальнасць паэткі на фоне ўсяе нацыянальнай літаратуры палягае — можа найперш? — у тым, што яна, Галіна Тварановіч, працягвае знакамітыя традыцыі беларускага рэлігійнага верша. Піша:

*Хрысце, даруй нам, няверным,*
*нямоглым,*
*за бясконцасць пакуты Тваё...*
*Сплывае імглістасць суровых вякоў*
*над прыхаванымі калісь*
*вяршынямі духу ...*
*Вось дачакаліся:*
*выспеліў час*
*таемныя долю і лёс,*
*маленне й шлях —*
*прагу Хрыста*
*у Беларусі.*

Яна — вучоная, доктар навук, літаратуразнавец. Тэматыка яе творчых зацікаўленняў, вядома, не паспрыяла ранейшаму выданню кніжкі. Здарылася тое толькі ў мінулым годзе: у выдавецтве *Мастацкая літаратура* выйшаў зборнік паэткі *Ускраек тысячагоддзя*, які і трапіў да рук Яна Леанчука. І захапіў яго. Галіна Тварановіч належыць да нешматлікага ліку тых пісьменнікаў, з'яўленне якіх ужо з першай кніжкай адразу стварае новую, вышэйшую якасць у нацыянальнай літаратуры. Як быццам у супрацьлегласць тым паэтам, якія проста дзесяткамі публікуюць свае зборнікі, але без якога-колечы заўважнага познатку ў літаратурным працэсе.

Запыняючыся крыху на самім перакладзе ў выкананні Яна Леанчука, трэба памятаць, што дасканаласць тут немагчымая. Гэта агульнакультурная праблема адэкватнай неперакладальнасці ўсякай выдатнай паэзіі ў свеце (даволі нагадаць, колькі разоў перакладалася на польскую мову, скажам, *Біблія*, або на беларускую той жа *Пан Тадэвуш*!). Пакідаючы па-за ўвагай асобныя, банальныя, памылкі, дапушчаныя перакладчыкам ад няпоўнага зразумення некаторых слоў, варта падкрэсліць прыгожае сугучча Леанчуковай польскай фразы з беларускім арыгіналам. Бярэцца тое, карацей кажучы, з роўнай таленавітасці абодвух аўтараў, паляка і беларускі. Ніхто так добра не перакладзе, не перакажа, як паэт паэта. Тады не будзе гэта паўтарэннем слова ў слова на іншай мове, што ў мастацтве лічыцца прасцяцкім непаразуменнем. На жаль, такое наглядаецца — таксама — і ў нас.

Ян Леанчук так выказваецца пра вершы Галіны Тварановіч: *... wszak wiersze p. Haliny bardzo mi są bliskie. A sądzę, że w literaturze białoruskiej takie właśnie potraktowanie warstwy duchowej wiersza jest rzadkością ogromną. W polskiej również, wszak aby napisać tak ascetyczny wiersz — trzeba samemu być ascetą*, (з прыватнага пісьма).

* Halina Twaranowicz, *W nieba utulenie*, przekład z białoruskiego Jana Leończuka, Związek Literatów Polskich, Białystok 1996.

* * *

*Сыну*

„Ці выратуюцца добрыя,
тыя, што не вераць?” —
занепакоенае спытала дзіця.

Чаму ж ім, гэтым добрым,
і справай, і словам, пачуццем, —
ды скаваным бязвер'ем,
выпаў лёс пакутаваць зараз,
а потым, уратаваным ужо,
апячыся наканавана
пранізлівым сорамам,
тым сорамам, што і Фама,
і Саўл — мудры Павел —
зведалі на зямлі,
але справаю свайго жыцця
паспелі шчасліва нядолі той выракчыся,
каб чыстымі дзецьмі ляцець да Айца?
Чаму?
Смутак і тайна.

* * *

*Synowi*

„Czy zbawieni zostaną ludzie dobrzy,
a którzy nie wierzą?”
zapytał niepokój dziecka.

Czemuż im, tym ludziom dobrym,
uczynkiem i słowem, odczuciem,
ale spętanym niewiarą,
wypadł los tu odpokutować,
a potem, uratowanym już,
sądzone jest poznać ból oparzenia
przenikliwym wstydem,
tym wstydem, który dotknął Tomasza
i Szawła dotknął mądrością Pawła —
a tego doświadczyli jeszcze na ziemi,
i uczynkami swojego życia
zdążyli szczęśliwie niedoli się wyrzec,
żeby czystością dziecięctwa iść ku Ojcu?
Czemuż tak jest?
Czemuż?
Smutek i tajemnica.

# Зорка
СТАРОНКА ДЛЯ ДЗЯЦЕЙ

## Ёлка ў беларускім прадшколлі



Навагодняя ёлка — гэта самае радаснае і кранальнае школьнае свята. Да яго месяцамі рыхтуюцца дзеткі і настаўнікі. Прыйдуць жа бацькі, сябры, запрошаныя госці.

Так было і ў беларускім прадшколлі ў Беластоку. 17 студзеня г.г. адбылося там мерапрыемства, названае Святам Каляд. Раней яшчэ бацькі атрымалі запрашэнні на беларускай мове. Таму пэўна і з'явіліся амаль усе мамы і таты дашкольнікаў на навагоднім свяце. Многія з іх фатаграфавалі маладых *акцёраў*, запісвалі на відэакасеты пабачанае мерапрыемства. А было што! Дзяўчынкі і хлопчыкі, разам са сваімі настаўніцамі паказалі публіцы п'еску пра Сняжынку, былі танцы, вершы, песенькі і калядкі. Каляднічкі выступалі з зоркай. Многія з іх пераапрануліся ў каляровыя касцюмы гномікаў, іншыя — за сняжынак, Дзеда Мароза. Мне найбольш падабаўся танец крыжачок у выкананні дзетак са старэйшай групы. Да танца падыгрывала настаўніца рытмікі, сімпатычная Аня Анташэвіч. Тут трэба дадаць, што дзеткі вельмі любяць рытміку. Дзяўчынкі не толькі вучацца там танцаваць, але і спазнаюць тайны элегантнасці і добрага смаку. Яны ўсе хочуць выступаць у сукенках або спаднічках, хлопцы памятаюць пра белую кашулю. На Свяце Каляд гулялі ўсе. Бацькі таксама, ужо пасля выступлення сваіх „зорачак", калядавалі. Многія з іх успомнілі калядкі з мінулага года. І зараз бацькі разам з дзецьмі ладзяць навагоднюю п'есу пра вяселле. Пра гэта мы напішам у „Зорцы".

**Ганна Кандрацюк**

*Фота Міраслава Сцепанюка*

## Калядоўшчыкі з „тройкі"

Побач Пачатковае школы н-р 3 у Бельску-Падляшскім будуецца часоўня св. Мікалая. Калісьці ў гэтым месцы стаяў Свята-Мікалаеўскі манастыр, але ён згарэў у час вайны. Будаваная капліца мае такі кшталт, як колішняя званіца, што стаяла ля царквы.

Група вучняў з пятага і шостага класаў рашыла ўнесці і свой уклад у пабудову. Іх настаўніцы, Валянціна Бабулевіч і Аліна Ваўранюк, папрасілі Дарафея Фіёніка навучыць дзяцей калядак. На гэтых здымках відаць, як вучні рыхтуюцца калядаваць у хатцы-музеі Фіёніка ў Студзіводах: развучваюць песні і клеяць гвязду. Некаторых мароз загнаў аж на цёплую печ.

У час калядных свят гэтая група захалядавала на часоўню ў Бельску больш за тры мільёны старых злотаў.

**(ак)**

*Фота Аліны Ваўранюк*



## Польска-беларускія крыжаванкі № 5

Запоўніце клеткі беларускімі словамі. Адказы (з наклееным кантрольным талонам) дашліце на працягу трох тыдняў у „Зорку".

| | | | |
|---|---|---|---|
| STADO | | PRYSZ-NIC | |
| | | | CHÓD |
| TYŁ / RUCH | | | |
| | | | |
| KASZA / NOGA | | | |
| | | | |

### Магічная беларуска-польская крыжаванка

| KULA | OSA | RAK |
|---|---|---|
| | | |
| | | |
| | | |

**Адказ на крыжаванку н-р 1: Калядныя песні.**

Узнагароды — **сегрэгатары** — выйгралі: **Сільвія Шыманская** з Орлі, **Пятрусь Янкоўскі** з Бельска-Падляшскага, **Марцін Лукошык** і **Андрэй Казёл** з Гарадка, **Марцін Ляшчынскі** з Навасад, **Аня Пячынская** з Кнарыд, **Кася Бура** з Нарвы, **Крыстафор Рытэль** з Гайнаўкі.

Віншуем!

Узнагароды можна атрымаць у „Зорцы" або чакаць іх у сваёй школе.

## Беларусь у межах Рускай імперыі

Уключэнне беларускіх зямель у склад царскай дзяржавы пры канцы XVIII стагоддзя спыніла працэс паланізацыі беларускага грамадства і стала пачаткам яго русіфікацыі. Не пачалася яна, аднак, зараз пасля далучэння Вялікага княства Літоўскага да Расіі. Спачатку расейцы ўспрымалі беларусаў як палякаў, спрыялі нават апалячаным беларускім магнатам развіваць сетку польскіх школ, замацоўваць каталіцызм і пашыраць уплывы ў адміністрацыі. Адначасова ў беларускіх гарадах і мястэчках стаялі царскія гарнізоны, шмат фальваркаў было аддадзеных чыноўнікам, якія тысячамі засяляліся сюды з Пецярбурга. Хутка павышаўся памер паншчыны, сяляне сталі таварам, які можна было прадаваць і купляць. Тэрыторыя Беларусі была падзелена на губерні, хаця да 1831 года пратрывала большасць законаў былога Вялікага княства Літоўскага. Пасля лістападаўскага паўстання 1830 года, у якім вельмі актыўны ўдзел прыняла мясцовая шляхта, пачаўся маланкавы працэс русіфікацыі беларусаў. Асветнае, культурнае і рэлігійнае жыццё ў Беларусі арганізавалася на рускай мове. Апалячаныя беларускія магнаты і шляхта змагаліся тым часам за польскасць гэтай зямлі. Беларуская мова была толькі мовай вясковага і местачковага люду. Пазбаўлены сваіх элітаў народ з аднаго боку чуў заклікі стаць расейцамі, з другога — палякамі. Большасць, не даваючы ні адным, ні другім, акрэслівала сябе „тутэйшымі". Захопнікі забралі беларусам не толькі дзяржаву, але таксама культуру, яе ствральнікаў, а затым і душу народа.



*Свята Трох Каралёў для сямікласніка Янкі з Чыжоў важнае і вялікае. Тады, тры гады назад, наш таленавіты карэспандэнт паступіў у прыслужнікі.*



Талон „Зоркі" № 5
02.02.1997

# Дэкламатары з Орлі

У снежні мінулага года ў Пачатковай школе ў Орлі праходзіў адбор удзельнікаў на Раённы конкурс беларускай дзіцячай паэзіі і прозы ў Бельску-Падляшскім. Дзяцей да школьнага конкурсу рыхтавала настаўніца беларускай мовы Анна Шыманская. Вучні дэкламавалі творы беларускіх і „белавежскіх" аўтараў. Асаблівую атмасферу мерапрыемству прыдавалі дзяўчаты, якія выступалі ў народных беларускіх блузках. Юных дэкламатараў ацэньвала журы ў складзе: дырэктар школы Яўгенія Васілюк, настаўніца Ніна Шуй і ніжэйпадпісаны. Згаданым журы на Раённы конкурс у Бельску вылучаны былі наступныя вучні:

— з III класа: **Марк Маркевіч** і **Павел Герасімюк**.

— з IV класа: **Магда Лемеш** і **Малгажата Рыбак**.

— з V класа: **Мажэна Лемеш**, **Магда Мартыновіч** і **Кася Васілюк**.

Беручы пад увагу традыцыю мінулых гадоў, можна спадзявацца на поспех вучняў з Орлі.

**Міхал Мінцэвіч**
*Фота аўтара*



*Удзельнікі дэкламатарскага конкурсу.*

# Шчодры кот

Ідзе кот калматы,
Ідзе вуркот вусаты:
Спінка ў белыя латы,
Хвост доўгі, паласаты.

— Куды, коце, ты ідзеш?
Каму падарункі нясеш?
Што за песню ты пяеш?
Каму лапай так трасеш?

— Трасу лапай я ліхому,
Чалавеку вельмі злому,
Што замест ісці дадому,
Сцежку спутаў па-п'яному,

І замест мне памагчы,
Загнаў мяне у карчы,
Як вяртаўся ён з карчмы!
Ледзь я, бедны, адпачыў!

Але я цяпер вясёлы,
Бо нясу падаркі скора
Вучням нараўчанскай школы;
Хай пяюць, пастаўшы ў кола:

— Прыйшоў кот калматы,
Прыйшоў вуркот пусаты,
Спінка ў белыя латы,
Хвост доўгі, паласаты!..

**Міра Лукша**

# VIII Сустрэчы неўзабаве

На днях, 3—8 лютага 1997 г., мы наладзім восьмыя ўжо Сустрэчы „Зоркі". Гэтым разам будзем вучыцца ставіць сцэнічныя творы. Мерапрыемства адбудзецца ў Нарве, у гасцініцы „Pod akacją". Сярод удзельнікаў будуць дзеці з Нарвы і са школ амаль усёй Беласточчыны. „Зорка" разаслала запрашэнні ўсім энтузіястам, якія прымалі ўдзел у VII Сустрэчах. Як вядома, гэтае апошняе мерапрыемства праходзіла ў выглядзе конкурсу. Усе дасланыя працы (а было іх аж 15) вартыя былі ўвагі. У сувязі з тым, што датычылі яны канкрэтна навагодніх свят, рэдакцыя рашыла надрукаваць непублікаваныя яшчэ тэксты ў наступным годзе. У канцы пераліку прозвішчы ўсіх удзельнікаў VII Сустрэч „Зоркі", працы якіх захапілі не толькі мяне, але і, думаю, многіх чытачоў.

Пра навагоднія абрады бліскуча напісалі: **Аня Садоўская** з Макаўкі, VIII кл. ПШ у Нарве, **Андрэй Пракапюк** з Грабаўца, ПШ у Дубічах-Царкоўных, **Барбара Казімерук** з Елянкі, VII кл. ПШ у Дубічах-Царкоўных, **Кася Семянюк** з Кнаразоў, VII кл. ПШ у Храбалах, **Ірэна Кулік** з Тафілаўцаў, VIII кл. ПШ у Дубічах-Царкоўных. **Марцін Мялешка** з Катоўкі, VII кл. ПШ у Новым Корніне, **Кася Анішчук** з Козлік, VI кл. ПШ у Кленіках ды **Ілёна Кубаеўская, Марыля Бенядзюк, Юліта Вяршко, Аня Аўсянюк**, ПШ н-р 3 у Бельску-Падляшскім.

Пластычныя працы надаслалі: **Кася Манаховіч**, ПШ н-р 3 у Бельску-Падляшскім, **Агнешка Габінская, Юліта Максімчук**, ПШ у Трасцянцы, **Павел Кубаеўскі**, VII кл. ПШ у Орлі і **Пятро Дземянюк**, з Падрэчан, VII кл. ПШ у Чыжах.

**„ЗОРКА"**

# Наш сапраўдны твар

Якія мы былі ў час VI Сустрэч „Зоркі"?

*...Мы — шчырасць!*
*Сваволя!*
*Мы — песня!*
*Мы — смех!*
*Вітае нас доля*
*Мільёнамі ўцех*

Гэта фрагмент верша славутай Наталлі Арсенневай пра нас, моладзь. А якія мы сапраўды ёсць? Як мы зарэкамендавалі сябе? Паспрабую на гэта адказаць.

22 лістапада 1996 г. Пятніца — апошні дзень школьнага тыдня. У гэты дзень „Ніва" і „Зорка" сарганізавалі VI Сустрэчы для карэспандэнтаў у Старыне, прыгожай мясцовасці. Там разам мы з сябрамі занялі свае пакоі і закватараваліся ў іх. Хвіліну пазней ужо рыхтаваліся да вячэры. У час застолля мы пазнаёміліся. Я і мае сяброўкі памагалі гаспадыням памыць талеркі. А ў час першай вечарыны ўсе спявалі беларускія песні. З намі быў таксама спадар Славамір Кулік, які расказваў пра гміну Дубічы-Царкоўныя. Я даведалася, адкуль узялася назва Старына. Вёску залажылі на т.зв. старых землях. Так мінуў поўны свежых уражанняў дзень.

Раніцай, калі я адкрыла вочы, пабачыла са свайго вакна елкі і бярозы. Гэта падбадзёрыла мяне і прадвяшчала незабыўны дзень. Я глядзела на лес, захаплялася ім і думала. Мае прадчуванні збыліся. Ужо на снеданні мы даведаліся, што дзень будзе цікавы. Неўзабаве мы віталіся з вучнямі з Дубіч-Царкоўных. Пазней даведаліся, як пісаць рэпартаж і пайшлі ў тэрэн. Я і мае сябры рашыліся на найдаўжэйшую дарогу, у Доўгі Брод. Ішлося хутка і весела. Усіх развесяляў наш малодшы апякун ліцэіст Міхась Дзмітрук. Старэйшым быў Мікола Ваўранюк, журналіст „Нівы". Дайшоўшы ў Мацкевічы (Доўгі Брод) мы хацелі сустрэцца з Цімафеем Білевічам. Дзядзька быў апрануты ў гумоўцы, рабочую світку, на галаве меў шапку-вушанку, ды рукавіцы на руках. Наш субяседнік спяшаўся ў лес за дровамі. Аднак не адправіў нас, пагаварыў некалькі хвілін. Размова была цікавая. Дзядзька расказваў пра партызан, якія тут ваявалі пасля І сусветнай вайны. Білевіч Цімафей выступаў з Алегам Латышонкам у беларускай тэлеперадачы. Пазней мы наведалі солтыса з вёскі Забагонне Андрэя Карпюка. Час ляцеў незаўважна, а нам трэба было вяртацца. І хаця ў нас была найдаўжэйшая дарога, мы вярнуліся першымі. Абед елі ў дубіцкай школе. Заглянулі і ў тутэйшую царкву. У час экскурсіі па гміне мы наведалі Стары Корнін і вёску Карыціска, дзе любаваліся нідэрландскім ветраком. Краявід з маленькага акна, на самым версе млына, яшчэ раз паказаў нам, які навокал прыгожы свет.

Пасля вячэры зноў была вечарына. Да нас прыехалі мілыя госці: пані дырэктар з Дубіч, бацюшка, Міхась Андрасюк, Янка Мордань, Пятро Багроўскі і іншыя. Публіку развесялялі наймалодшыя: Нінка, Наталька, Аляксандр. Выступалі мы, некаторыя карэспандэнты „Зоркі", пазней вучні з Дубіч. Усім падабаліся дубіцкія сябры, пра што сведчылі бурныя воплескі. Выступіў і Дарак Фіёнік, які праспяваў нам паэзію. А пасля і ўсе пачалі спяваць беларускія песні. Так нам спадабаліся гэтыя спевы, што прадаўжалі іх да позняй гадзіны. Пасля гэтага не трэба і пісаць, як мы развіталіся. Мне па сённяшні дзень мрояцца гэтыя дні. Нашы хлопцы навялі цудоўны настрой, умелі развесяліць, пажартаваць і былі вельмі адважныя. Дзякуючы іхнім „стараннямʼ" ніхто не сумаваў і не наракаў на „нудныя дні". Моладзь са школы ў Дубічах-Царкоўных добра сарганізаваная, прыгожа спявае, арыгінальная. Яны і іх настаўнікі шануюць і паважаюць родную, беларускую мову. Найбольш радасці прычынілі ўсім наймалодшыя ўдзельнікі сустрэч. Вельмі добра гаварылі яны на беларускай мове і нас развесялялі. Дзяўчаты былі таксама вясёлыя, любілі спяваць, жартаваць і не забываліся пра сваю спадчыну. Апекуны і выхавацелькі добра сарганізавалі Сустрэчы. Праграма была цікавая і разнародная, апекуны — мілыя і сардэчныя. Я хацела б ім падзякаваць як адна з удзельніц. Усе мы адчувалі сябе вялікай, беларускай сям'ёй. Гэта вельмі важнае: людское пачуццё да сваёй радзімы.

*Мы выйшлі з народу,*
*з крывіцкай сям'і,*
*і ў кожнай нагодзе*
*з ім побач стаім.*
*Мы з краем каханым*
*расцём угару...*
(Н. Арсеннева)

**Аня Садоўская,**
**вучаніца VIII класа ПШ у Нарве.**
*Рэпартаж узнік пасля VI Сустрэч „Зоркі".*




*Дзеткі з Кнарыд.*

Фота Ганны Кандрацюк

# Так будавалася камуна

**Пра бежанства расказвае Антон Барташук, 91-гадовы жыхар Радзівілаўкі Мельніцкай гміны.**

У бежанства я паехаў з братам і яго жонкай у жніўні 1915 года. Мне тады было 9 гадоў.

Памятаю, як па вёсцы ездзілі казакі на конях і крычалі: „Убирайтесь все, бо вас германцы убьют!” Хто жывы быў у Жэрчычах, збіраўся ў дарогу. Грузілі людзі сваю маёмасць на фурманкі, забіралі жывёлу і ўсё, што было неабходнае для падарожжа. Ехалі ў невядомую краіну, дзе спадзяваліся зажыць спакойна і шчасліва.

Пакінулі і мы бацькоўскую хату. Выязджалі разам са сваімі аднавяскоўцамі самыя, бо бацькі раней памерлі.

У Жэрчычах усяго трох гаспадароў засталося, якія не паверылі ў злачынствы немцаў.

Як доўга мы ехалі, якімі дарожкамі, зараз не скажу, бо гэтым не цікавіўся.

У Расеі жылі мы ў вёсцы Новыя Баранзукі Сімбірскай губерні. Тамашнія ўлады прызначылі нам кватэру. Па нейкім часе брат наняўся пастухом, свіней у вёсцы пасвіў, а я пайшоў у школу. Правёў я ў ёй чатыры гады.

Запамяталіся мне настаўнікі Марыя Цімафееўна і Міхаіл Цімафеевіч. Марыя Цімафееўна была ўжо пажылой жанчынай. Аднак мы абыходзіліся з ёй як з сяброўкай. Рабілі ёй розныя фокусы. Пакараннеў за гэта не адчувалі, бо тады свабода была ў школах. Біць не дазвалялася. Міхаіл Цімафеевіч быў суровым мужыком. Яго кожны баяўся. Таму на яго занятках сядзелі мы як мыш пад мятлою.

У Новых Баранзуках была царква, а ў суседнім хутары, Старыя Баранзукі — валасць. Сімбірская губерня мяжавала з Казанскай. Багатая гэта краіна. Зямля ўраджайная. Людзі ўсяго мелі ўдосталь. Адзін гаспадар пасля жніва па дзесяць-пятнаццаць стагоў збожжа складаў. А зімы стаялі тут суровыя. Усе мышы ў стагах вымерзлі.

Як прыйшла вайна, усё быццам пад зямлю правалілася. Прапала і наша школа. Тамашнія людзі казалі, што Расею царыца немцам прадала. Яна тады ўпраўляла краінай і царом. Разгульвалася на ўсе бакі. Нават вершык запамятаўся мне на гэту тэму:

*Цар Николай вином торговал,*
*а Гришка Распутин з царицей гулял.*

У вёсцы пачала дзейнічаць бальшавіцкая ўлада. Яе прадстаўнікамі з'яўляліся трое „дабравольцаў”-міліцыянераў. Добраахвотнікамі пайшлі служыць. Мясцовыя людзі назвалі іх шуцманамі.

Хадзілі гэтыя „дабравольцы” па аколіцы, ды старых царскіх службоўцаў вылаўлівалі. Калі нейкі салдат трапіўся ім у рукі, у міліцыю цягнулі. Там суд разбіраўся, што з імі зрабіць. Памятаю, як бацюшку з хаты выцягнулі. Здзекі над ім рабілі. Я тады каля прыхадскога дома з сябрукамі гуляў. Усё сваімі вачыма бачыў.

— Ты поп? — рагочучы пытаў шуцман.

— Я — поп...

— Дочку имеешь?

Святар маўчаў. Тады гэты чырвоны яго ў твар кулаком урэзаў.

— А её любить можно?.. — смеючыся далей пыталі „дабравольцы”. Бацюшка нічога не гаварыў. Тады яны святара за бараду дзёргаць пачалі ды папіхаць адзін да другога, быццам футбольны мяч.

Так будавалася камуна бальшавікамі.

Мяцеж, грабяжы прымусілі нас вяртацца дамоў. Пасля шасцігадовага блукання вярнуліся мы ў родныя Жэрчычы. Было гэта восенню 1921 г.

У нашай хаце чужыя людзі жылі. Цяжка нам прыходзілася з імі ваяваць. Яны таксама не мелі сваёй хаты. Мы аднак перамаглі.

Пачалі думаць аб будучыні. Пазычылі ад сваякоў жыта пад сяўбу, бо свайго нічога не мелі. Засеялі поле. Незадоўга брат пайшоў у Нурэц на работу. У тартаку працаваў, а я гаспадаркай заняўся.

Так пачалося новае жыццё пасля бежанства.

**Запісаў Уладзімір Сідарук**

# Камуна камуне не роўная

Прачытаўшы артыкул „Абы спакой быў” у 52-м н-ры „Нівы”, я задумаўся. Людзі бядуюць, наракаюць на цяперашні парадак, маючы асаблівую насталгію па камуне, асабліва Геркавай, бо тады, маўляў, так добра жылося. Але ці ўсім? Цікава, калі б у нас тады панавала савецкая або кітайская камуна, ці таксама па ёй цяпер плакалі б? Чамусьці старыя „патрыёты” не вельмі ахвотна ўспамінаюць „прынцыповую” камуну Берута, якая верна крочыла слядамі любімых правадыроў Леніна і Сталіна. Каб аплаціць тады адны падаткі, не лічачы абавязковых паставак, „кулакі” (а сёння мы ўсе „кулакі”) вымушаны былі працаваць цэлую зіму на чыгунцы ў Варшаве. Людзі працавалі і на будовах, на дарогах, у лесе, у пэгээрах. Аднак у параўнанні з санацыйным перыядам мы сталі жыць багацей, бо мелі нават ужо свае ровары ці жалезныя бароны — тады гэта здавалася раем на зямлі. У параўнанні з Захадам мы былі аднак жабракамі і сёння яшчэ імі астаемся. Берутава ўлада ўзялася за калектывізацыю вёсак, аднак не з такою руплівасцю, як у саветаў, і калі да ўлады дабіўся Гамулка, нашы калгасы ўміг разваліліся. Ды і якія гэта былі калгасы? У нас, у Дубічах-Царкоўных, у „спулдзельні” было аж сем сем'яў, якія калектыўна працавалі, калектыўна сварыліся і калектыўна біліся паміж сабою. Былі і такія, што ў калгас не ішлі, аднак Сталіна хвалілі. І таму з настальгіяй можна ўспамінаць нашу камуну. Герэк, калі прыйшоў да ўлады, прыклад браў не з саветаў, а з Захаду, бо там быў і бачыў, як жывуць людзі ў культурных краінах. Браў ён ад Захаду вялікія крэдыты, каб падняць Польшчу на ногі. І многія гэтымі крэдытамі пакарысталіся, купляючы не толькі трактары, але і будаўнічыя матэрыялы, і пляцы ў гарадах. А да таго ж яшчэ Герэк даў самае галоўнае і каштоўнае: пенсіі сялянам! І зрабіў гэта ідучы за французскім, а не за савецкім прыкладам. А да чаго давяла савецкая камуна, бачна сёння на прыкладзе Расеі і Беларусі. А можна ж яшчэ глянуць і на Кітай, і на Паўночную Карэю.

**Мікалай Панфілюк**

# Канцэрт калядак

У сераду 15 студзеня ў Беластоцкай філармоніі адбыўся канцэрт праваслаўных калядак. Выканаўцамі песень былі галоўным чынам беластоцкія прыхадскія хоры; з-па-за Беластока быў толькі дзіцяча-маладзёжны хор з Гарадка. Царкоўных выканаўцаў дапаўнялі яшчэ ансамбль „Арпа” і зборны дзіцячы калектыў праваслаўных дзяцей з беластоцкіх прадшколляў н-р 27 і 45, які не толькі спяваў, але і выканаў абрадавую сцэнку. Можна тут было б назваць яшчэ і хор Праваслаўнага ардынарыята, які складалі нямногалікія цывільныя ваякі з другіх хораў. Выканаўцы найчасцей спявалі калядкі, якія найбольш папулярныя на Беласточчыне ды і выконваліся яны найчасцей на рэгіянальнай „тутэйшай” гаворцы; на „мове” спявалі толькі дзеці і моладзь. Некаторыя выканаўцы спявалі пад інструментальны акампанемент. Канцэртная зала была шчыльна запоўнена слухачамі, якіх па баках дапаўняў неблагі натоўп старэйшых выканаўцаў ды бацькоў малодшых. Сярод слухачоў былі м.інш. беластоцкі архіепіскап Сава, прадстаўнік канцылярыі прэзідэнта Рэчы Паспалітай, віцэ-ваявода Гжэгаж Рыкоўскі ды яшчэ шмат менш важнага духавенства і чыноўніцтва. Зала была ўпрыгожана сасновым голлем з чырвонымі кветкамі, а таксама ёлачкамі; на некаторых з іх былі яшчэ іголкі. Канцэрт вялі матушка Ала Дубец і бацюшка Дарафей Савіцкі; каб людзі разумелі, што спяваецца на сцэне, гаварылі яны па-польску. Пра водnámу усім матушку Алу варта яшчэ прыгадаць, — каб зайздроснікі ведалі — што выступала яна ў амаль палове калектываў у ролі то спявачкі, то дырыжора, то інструменталіста. Настаяцелі прыходаў узнагароджвалі выканаўцаў ласункамі, а публіка — апладысментамі. **(ав)**

# Разумны блазан

## або Смутны беларускі блюз

**Віктар Шалкевіч** — у ролі блазна? А чаму б і не, калі наследаваць Станьчыка? У шапцы са званочкамі няраз можна сказаць больш разумнага, чымсьці з прафесарскай кафедры. Толькі наўрад ці ў наш час гэтая вопратка выратуе ад удараў па галаве злосных, абражаных, пакрыўджаных трапным словам песні.

Памятаю, які крык падняўся пасля Шалкевічавай „Жлобскай нацыі”! Як жа можна называць нас жлабамі, дурнымі? Тым часам ніхто нават у гэтай песні не звярнуў увагі на *сонца лупатае* ці такія фенаменальныя радкі:

*...расцвіла ў парку акацыя,*
*добрай раніцы, жлобская нацыя,*
*вераб'і ў калюзе купаюцца.*

У гэтых акацыі, калюзе і вераб'ях больш паэтычнай прыгажосці і праўды пра наша перыферыйнае жыццё-быццё, чымсьці ў дзесяці пахвальных гімнах. Зрэшты, на Шалкевіча пагневацца можа, хто заўгодна: беларусы, палякі, яўрэі, камуністы, бэнээфаўцы, калгаснікі, местачкоўцы, рок-музыканты, ветэраны, моладзь, алкаголікі, непітушчыя, Лёнік Тарасэвіч, Зянон Пазьняк і Сяржук Сокалаў-Воюш. Кожны дзеля гэтага знойдзе прынамсі дзесяць прычын.

Але, з другога боку, у творчасці Шалкевіча яшчэ больш прычын, каб ёю захапіцца. Як я перажываю кайф ад гэтых вераб'ёў, так хтосьці іншы ад карчомнай балады „Ганка — дзеўка з Пагулянкі” *(żeby ją głupią k... trafił szlag)*, бурлескна-нацыянальнага эпасу „У лясу радзілась ёлачка”, сумназ'едлівай „Хамскай улады” ці лірычнага „Верасня” (*слотная пара — дождж ідзе без перастанку)*.

Кожнае публічнае выступленне Шалкевіча становіцца падзеяй. Ён, як актор-прафесіянал, умее шанаваць публіку, беспамылкова адчувае яе настрої і патрабаванні. Тым не менш, апошняе слова заўсёды застаецца за ім. Гэта ён навязвае гледачам сваё бачанне свету, застаўляе палюбіць свае паэтычныя і музычныя густы ды сваю інтэрпрэтацыю літаратуры, гісторыі, сцэнічнага мастацтва.



Цяпер вось, на вокладцы новай касеты Віктар Шалкевіч паяўляецца ў позе Матэйкавага Станьчыка, у яго крэсле і вопратцы. Касета называецца „Смутны беларускі блюз”, прысвечаная „грамадзянам колішняга Вялікага княства Літоўскага, раскіданым па ўсім свеце” і была запісана ў студыі Беластоцкага радыё мінулай зімою. Доўга прыйшлося яе чакаць, але было варта. Пасля па-аматарску выдадзенай „Правінцыі”, добрае ўражанне выклікаюць цікавая вокладка і акуратнае вонкавае афармленне. Аматар творчасці Шалкевіча не расчаруецца і ў яе змесце.

Ёсць тут і песня, якою Шалкевіч зрабіў фурор яшчэ на першым „Басовішчы”, у 1990 годзе, „Гарадоцкі раманс” — і якая з таго часу нічуць не пастарэла. Ёсць вынесены ў загаловак касеты „Смутны беларускі блюз” і ягоная хрэстаматыйная „Правінцыя”, і настальгічны, прыгожы раманс „Шалёная”, і адносна новая „Песня пра саксафаніста Сярожу”, і шмат яшчэ чаго добра вядомага.

Новае — музычная аранжыроўка. Упершыню голасу Віктара Шалкевіча дапамагае не толькі яго акустычная гітара, але і скрыпка, баян, электрычная гітара і электрычны арган. Мне, асабіста, здаецца, што на касеце замнога электронікі, што характару песень Шалкевіча больш адпавядаюць акустычныя інструменты, што менавіта яны ствараюць адэкватны зместу песень настрой. Але тут, як той казаў, справа густу.

**Мікола Ваўранюк**

*Фота Аліны Ваўранюк*

# Бежанства і служба на плябаніі

**Гэтую размову з 84-гадовай тады Таццянай ДАНІЛЮК з Орлі правёў я 23 мая 1995 года. Кожны год выязджала яна на зіму да дачкі ў Беласток, а вясною вярталася ў Орлю. Абяцала яшчэ расказаць мне пра сваё жыццё. На жаль, вясною 1996 года не вярнулася. Памерла 2 мая мінулага года. У маім архіве застаўся толькі магнітафонны запіс яе ўспамінаў.**

Жылі мы ў Малінніках, што ў гміне Орля. У 1914 годзе, мне тады было тры годзікі, уся наша сям'я — мама, тата, брат, сястра і бацькаў брат выехалі ў Расею. Пасялілі нас вельмі далёка, ажно ў Самарскай губерні. Жылі мы ў вёсцы непадалёк горада Чарамшан (велічыні нашага Бельска), які належыў Багульмінскаму ўезду Цімашаўскай воласці. Там, у глыбі Расеі, прыйшлося нам жыць шэсць гадоў сярод чувашаў. Гэта вельмі прыемны і добры народ. Чувашы вельмі часта „абдароўвывалі" бежанцаў, апекаваліся намі. Уцекачоў з заходніх губерняў Расейскай імперыі было там адносна многа.

Была там царква. Евангелле ў ёй чыталася па-чувашску, а для бежанцаў — па-руску. Таксама набожныя песні спяваліся на двух мовах.

Я, хаця была малым дзіцём, навучылася добра размаўляць па-чувашску. Яшчэ сёння памятаю, што „добры дзень" — гэта „авані", а „вельмі добры" — „пота ван".

Жылося нам там не надта лёгка. Тата трохі працаваў пільшчыкам, потым старажаваў у школе для бежанскіх дзяцей. У жніво давалі нам дзялянку для ўборкі ўраджаю. Панавала там страшэнная спёка і мы выходзілі ў поле вельмі рана.

Бацька купіў старую, маленькую, нізкую хатку, у якой адкрылі школу для наймалодшых дзяцей. Настаўнікам у ёй быў мой дзядзька (бацькаў брат), які лічыўся трохі „вучоным". Я ў ёй вучылася тры гады, да дзевятага года жыцця. Старэйшыя брат і сястра хадзілі вучыцца ў Чарамшан.

У 1920 годзе вярнуліся мы ў Маліннікі, ужо ў Польшчу. Тады было мне 9 гадоў. У вёску прыехаў настаўнік Шышлібіс і адкрыў чатырохкласную школу. Я вельмі моцна прасіла маму пусціць мяне ў польскую школу, але мама ўсё гаварыла: „Ты ўжэ старэйша". Брат купіў мне польскі лемантар. Я ўжо ўмела трохі чытаць і пісаць, настаўнік праверыў мае веды і запісаў у другі клас. Тут, у Малінніках, вучылася я ўсяго адзін год. У бацькоў была свая гаспадарка і многа работы.

Наш прыход быў у Падбеллі, але ў царкву хадзілі мы ў Орлю, бо было бліжэй. Мястэчка вельмі мне падабалася. У шматтысячнай Орлі большасць складалі яўрэі. Крамаў там была безліч, адна ля адной. Праваслаўных было ўсяго каля ста хатаў.

Стаўшы падлеткам, хацелася мне мець свае грошы на лепшую вопратку. Але зарабіць іх тады можна было толькі на службе. Мама спачатку не дазваляла пайсці служыць, паколькі гаспадарка ў нас была вялікая і ўсім работы хапала. Тата лічыў, што гэта сорам, каб гаспадарская дачка ішла працаваць служанкай. Але ў канцы мама дайшла да вываду, што можна мяне паслаць на службу да бацюшкі. Сказала яна тату: „І я служыла ў батюшкі. і од батюшкі за тэбэ замуж вышла; а то нэ ў жыдоў, то ў люды культурных".

І такім чынам на зіму пайшла я ў Орлю служыць у айца Уладзіміра Вішнеўскага. Сям'я бацюшкі вельмі мяне палюбіла. Прабыла я ў іх зіму, а на лета вярнулася дадому, бо там многа работы чакала на гаспадарцы. На другую зіму прыехаў бацюшка за мною. Служыла я на плябаніі дзесяць гадоў, да выезду бацюшкі Вішнеўскага ў красавіку-маі 1939 года ў Францыю. Яшчэ нядаўна матушка Вішнеўская прысылала мне пісьмы з заграніцы. Бацюшка загінуў праўдападобна ў 1970 годзе ў авіякатастрофе каля Львова.



*Настаяцель і хор Свята-Міхайлаўскага прыхода ў Орлі ў 1935 годзе. На здымку — злева: матушка і айцец Уладзімір Вішнеўскія, Аляксандр Нядзельскі, Таццяна Агіевіч, Радзівон Агіевіч (псаломшчык); вышэй справа: Аляксандра Агіевіч, Ніна Мураўская, Аляксандра Амельяновіч, Аляўціна Ляшэвіч, Вера Адзіевіч; вышэй злева: Гапонюк, Хведар Бяроза, Уладзімір Адзіевіч, Васіліса Адзіевіч, Вера Васілеўская, Галена Шайкоўская, Лідзія Мартыновіч, Марыя Агіевіч, Вольга Федаровіч, Ян Федаровіч, Марк Мартыновіч; вышэй справа: Вішнеўскі (брат бацюшкі), Марыя Амельяновіч, Андрэй Мураўскі, Нікіфар Багацэвіч, Канстанцін Мураўскі, Артэмюк.*

У бацюшкі рабіла я пакупкі, варыла, мыла, прыбірала, насіла ваду. Вельмі добрая вада была каля „жалезнага склепу" — магазіна з металёвымі таварамі. У пекараў брала я драўнінны вугаль для праса (электрычнасці ж тады яшчэ не было). У падвале прадукты даглядала. Бацюшка трымаў карову. Я даіла яе, а раніцай малако брала яўрэйка, якая прадавала яго іншым яўрэям. За пакупкамі я хадзіла ў яўрэйскія крамы. У іх прадавалі на крэдыт, запісвалі ў кніжкі. Некаторыя крамнікі, напрыклад яўрэйка Мушка, дапісвалі працэнты, але пекар Ізбуцкі пасля разліку даваў дармовую булку і ніколі не спрачаўся.

Арлянскія яўрэі вельмі строга прытрымоўваліся шабасу. Аднойчы сустрэла мяне яўрэйка і давай прасіць: „Барышня, барышня! Прочытайтэ! Получила пісьмо". Якраз быў шабас і нельга ёй было адкрыць канверт. А ў аднаго хворага яўрэя згасла свечка, а трэба было, каб гарэла яна ўсю ноч. Прыбегла тады ноччу да матушкі яўрэйка і я хадзіла запаліць ім свечку. Калі быў шабас, то ў Орлі нельга было прайсці — па-святочнаму апранутыя яўрэі грамадою шпацыравалі па вуліцах. Хрысціяне распальвалі ім печкі — усё для распалкі было падрыхтавана заранёй. Здарылася так, што нейкі кароткі час заступала я хворую служанку ў мясцовага аптэкара, таксама яўрэя. Багатыя яўрэі дружылі з Войтынамі — уладальнікамі кафлянога завода.

Забудова Орлі была вельмі цесная, будынкі — малыя, крытыя гонтай. Яўрэі галоўным чынам займаліся гандлем, куплялі ў сялян быдла і збожжа.

Калі ў 1941 годзе прыйшлі немцы, то яўрэяў зачынілі ў гета. Немцы заганялі хрысціян на шарваркі і мы з фурманкай прыязджалі з Маліннік у гета на работу. Вазілі адсюль каменне на будову дарогі ў Бельск. Я тады жыла ў Малінніках і не бачыла трагедыі яўрэяў, але людзі казалі, што страх было, што тут рабілася...

**Запісаў Міхал МІНЦЭВІЧ**

*Фота з архіва аўтара*

<u>**Якія мы людзі**</u>

# Ненармальны

**Ненармальны ён, шаптала вёска, не можа ён быць нармальны, калі з такою ажаніўся...**

* * *

Гандзі ў жыцці ўсё ішло, як па масле. Як толькі на кагось глянула — ужо быў яе. З хлопцамі бяды не мела, ліплі да яе, як мухі на мёд. А разумная была якая!

Але і бацькоў мела добрых. На чацвёра дзяцей яна была адзінай дачушкай, і над ёю, малодшанькай, трэсліся яны, як над ніводным з сыноў.

То ўжо ж не будзе сядзець такая дзяўчына на вёсцы, вырашыліаднагалосна бацькі, і накіравалі дачку вучыцца ў Беласток, у тэхнікум. А дзяўчына была быццам прызначана лёсам да жыцця ў вялікім горадзе. Прыгожая, статная, элегантная. Ідзе вось па вуліцы, а за ёю аглядаюцца. Ну, дык школу скончыўшы, зараз і замуж выйшла. І ў хлопца ўсё было: кватэра, самаход, добрыя грошы. А яе бацькі затое адгрохалі такое вяселле ў гарадскім рэстаране, што доўга гаварылі пра яго не толькі ў іхняй вёсцы, але і па ўсёй Бельшчыне. А яшчэ бацькі далі дачушцы вялікі грашовы пасаг.

Ну, ніц, толькі жыць прыпяваючы! Абое працавалі і не спадзяваліся бяды, якая зваліласа на іх, як гром з яснага неба. Гандзя зацяжарыла, і працуючы, сваю цяжарнасць пераносіла вельмі лёгка. Добра сябе адчувала, быццам бы ў яе жыцці нічога не змянілася. А напрыканцы дык ужо нават забылася, што хутка радзіць ёй.

Не наракала, што баліць, не вохкала і не стагнала, калі муж вёз яе ў радзілку. Вочы яе свяціліся вялікім шчасцем. Заплакала ад радасці, калі акушэрка сказала: „Дзяўчынка! Па пяць пальчыкаў на ручках і па пяць — на ножках". Дзяўчынка была яе марай; відаць, передалася ёй ад бацькоў ахвота мець дзяўчынку. Яны любілі паўтараць: дачка для бацькоў заўсёды дачкою будзе, а сыны сынамі — пакуль не ажэняцца. Вось і яна дзяўчынкі хацела — сяброўкі і падпоры на старыя гады.

* * *

Акушэрка добра палічыла пальчыкі немаўляткa, але ведала не ўсё, бо Гандзіна шчасце лопнула, як мыльны пузыр, калі дачушка, вучачыся хадзіць, спатыкнулася і паламала адразу дзве ножкі. Толькі тады дзіцяці зрабілі дакладныя даследаванні, з якіх вынішла, што ў малой незвычайна крохкія косці і, праўдападобна, цэлае жыццё дзяўчынцы давядзецца правесці на калясцы.

Гандзя даслоўна амярцвела. Адзінай яе марай было цяпер здаровае дзіця. Дыне, не новае — пра другое дзіця яна цяпер не думала, — а гэта, яе найдаражэйшая, хворанькая дачушка. Куды толькі не ездзілі з ёю, да якіх знахароў не звярталіся! Давалі ёй лекі, зёлкі, кіравалі на фізіятэрапію, ніхто, аднак, не мог нічога гарантаваць.

А час ішоў. Колькі непраспаных у роспачы начэй давялося залічыць Гандзі, ведаў адзін Бог. Дачушка расла і вучылася, да яе дахаты прыходзілі настаўнікі і вялі з ёю індывідуальныя заняткі. А Гандзя глядзела на ўсё гэта і ўжо сіл не мела глядзець. Дзяўчынку спачатку больш насілі на руках, пасля то клалі ў ложак, то садзілі за стол, то апускалі яе ў ванну, дзе давалі дзяўчынцы магчымасць даўгавата паплюскацца.

Калі дачка стала паненкай, цяжэй стала яе насіць. Гандзя даўно ўжо кінула працу і прысвяціла сваё жыццё дачцэ. Мужа-інжынера ў хаце ўсё не было, бо трэба было з патроенай энергіяй зарабляць на жыццё. Адкрыў ён сваю фірму, браў усялякую працу, хаця не была яна звязана з яго прафесіяй. А што адна баба ў хаце з хворым падлеткам...

Толькі адно цешыла бацькоў гэтай беднай дзяўчынкі: вырасла яна прыгожанькая і вельмі-вельмі разумная. Маці з нейкай заўзятасцю пераносіла на руках васемнаццацігодку з канапы на каляску і з каляскі на ложак: як толькі дзяўчына прабавала — нават далікатна — стаць на свае ногі, яны ламаліся.

Бачачы, як хутка іх дачка вучыцца, бацькі не шкадавалі грошай і на прыватных настаўнікаў. Дзяўчынка вельмі прыгожа малявала, і да яе прыходзіў мастак, які вучыў яе жывапісу. Таксама ад маленства дзяўчынка вывучала англійскую мову. Добра гаварыла на ёй ужо ў пятнаццаць год. Але працавала, як не адно здаровае дзіця.

А пасля яе бацькі вырашылі, што трэба пачаць вучыць яе яшчэ адной мове. Нанялі дадатковa настаўніка нямецкай мовы. Навучылася гаварыць па-нямецку вельмі хутка, бо ўжо ведала англійскую мову. Аглядала замежныя праграмы ў тэлевізіі. А, зрэшты, малады настаўнік укладаў у сваю працу душу. Сядзеў шмат даўжэй, чым адну гадзіну, за якую браў грошы. Прыходзіў нават тады, калі не быў дамоўлены, а ведаў, што яна мае час, і тады мог смела даваць ёй бясплатныя ўрокі.

Што ні кажы, палюбіў ён дзяўчыну. Пераносіў яе на руках, як рабілі гэта яе бацькі, і маці не баялася пакінуць дачку з гэтым нясённяшнім хлопцам. Дзяўчыне было цёпла ад яго позіркаў, а пасля не спала яна цэлую ноч, калі ён, пераносячы яе, пацалаваў у шчаку.

Ад гэтага часу дзяўчыну цягнула да хлопца быццам магнітам. Чакала яго, а сэрца яе трапятала на адну думку пра спатканне.

Урэшце іх губы сустрэліся, і ад таго часу пачалося вялікае каханне. І хутка хлопец перастаў быць яе настаўнікам, а стаў... мужам.

Усё гэта нават бацькам хворай дзяўчыны здалося настолькі неверагодным, што яны ў першы момант аслупянелі, калі ён папрасіў у іх руку дачкі. Дык гэта было каханне? А ім жа здавалася, што ён памагае дзяўчыне з літасці. Нават крыху ўпіраліся спачатку. Ці дасць яна рады быць жонкай? Але хлопец упёрся: гэта мая праблема.

І быў дзіўны людзям, але цудоўны шлюб: статны хлопец, а побач з ім дзяўчына ў белай сукенцы і вэлюме на калясцы. Але ў памяці гасцей засталіся прамянныя позіркі і пацалункі маладых. І гэта не давала ім спакою. Ненармальны ён, зашаптала Гандзіна вёска, не можа ён быць нармальны, калі ўзяў такую. А можа ён так яе шкадаваў, што з ёю ажаніўся...

* * *

На вёсцы часта над сэрцам бярэ верх розум. Баба мае быць здаровая і рабацяшчая. А іншая — навошта?! Цяжка старэйшаму селяніну зразумець, што для маладога чалавека пачуцці могуць быць важнейшыя ад практыцызму.

**Ада ЧАЧУГА**

# Кахаў усіх жанчын

Януш К. замёрз на Каляды.

— Калісь то толькі *свенці* ў гадавыя святы паміралі, — з нотай іроніі каменціруюць гэтую смерць жыхары Б. І Галена К., першая жонка пакойнага Януша не трымаецца традыцыйнага прынцыпу: „пра памерлага дрэнна не гавары!"

— Змарнаваў мне жыццё, адзінокую з дзеткамі пакінуў, — кажа яна.

Ад успамінаў пра былога мужа дрыжаць ёй рукі. І твар шарэе быццам лістападаўскае надвор'е.

**Dość tej prostoty**

У Б., тыповай каталіцкай вёсачцы Беласточчыны, многа снегу, з трыццаць хат і амаль пры кожным панадворку каплічка з Маткай Боскай. Аляксандр М. любіць, калі маладыя размаўляюць „па-просту".

— Ты пэўна расейка будзеш, — папытаў ён мяне.

У спадара Аляксандра ўнукі не любяць простай мовы. „Dosyć już tej prostoty dziadku", — сказала нядаўна яму ўнучка беластачанка.

Аляксандр М. апошнім бачыў Януша К.

— Прыйшоў да нас над раніцай і кажа: „Ратуй брат!" Рукі, шчокі і вушы чырвоныя ўжо былі. Давай тады адмарожанае цела дэнатуратам церці. Добрую гадзіну так церлі, нацiралі. Пазней, каб і ад сярэдзіны пагрэцца, бутэлечку выпілі. Мой субяседнік не памятае, як з Янушам развітваўся. Свята ж было, тое-сёе і раней выпілася.

— Няшчасная сіла яго на мароз выпіхнула, — уключаецца ў размову гаспадыня, якая дагэтуль толькі прыслухоўвалася размовам, бо смажыла свежаніну. — Мы яго не пускалі, сілай трымалі.

— А цяпер спаць не магу, — кажа Аляксандр М., — сумленне мучыць.

**Заўсёды быў ён закаханы,**

— кажа пра Януша Альжбета Т., найбольш адукаваная ў мясціне.

Януш К., будучы падвойным разводнікам, прычапіўся да яе. У верасні з два тыдні кожны дзень у хаце Альжбеты сядзеў. Маладыя ў Б. прытрымоўваюцца лозунга „dość tej prostoty!"

— Ja panią, pani Elu, tak kocham, — гаварыў нядаўні студэнт нашых герой.

Дзяўчына маўчала.

— Шкада мне было гэтага рамантычнага дурня, — кажа пані Эля.

— Tu, pani Elu, wszyscy, oprócz nas takie zacofane, — гаварыў ёй Януш К.

Альжбету Т. не мучыць сумленне. Месяц перад Калядамі сустрэла няшчаснага *каханка*.

— Już mi przeszło, pani Alżbietko, — аб'явіў ёй тады, хаця і не таіў, „жэ му часамі сэрцэ заклуе".

Падобныя гісторыі расказваюць і малалетнія вучаніцы і замужнія гаспадыні. Януш К. кахаў усіх жанчын. Усе амаль без выключэння паўтараюць:

— Ён мне аднойчы сказаў: „Я панё так кохам".

**Усе жонкі і каханкі**

Януша К. доўга будуць памятаць няшчаснага пакойніка.

— Пакінуў мяне з двумя дзецьмі, — кажа Галена К., першая жонка. Доўга пералічвае яна свае крыўды. Але найгоршае было тое, што за бабамі, як апантаны, бегаў. Па забавах, касцельных фэстах, дажынках усялякіх. Галене К. было дваццаць гадоў, калі з вялікага кахання за Януша выйшла замуж.

— Асіраціў трое дзетак і па другой жонцы, — кажа згаданы ўжо Аляксандр М. — Там яго жонка з *сацыяльнай* апекі жыве. Дзеткі ў школу галодныя ходзяць.

— І такой разводцы змайстраваў дзіцятка, — дадае жонка спадара Аляксандра.

У Б. гавораць, што Януш К. пусціў на свет намнога больш нашчадкаў.

— Але яны па ўсёй Польшчы раскінуты, — кажа жонка Аляксандра М., — або і па Беларусі, бо Януш, быў час, туды на гандаль ездзіў.

**Смерць за ім хадзіла**

— пераканаўся спадарства М. Год таму ад каровы шалёнай хваробы набраўся. Год часу балючыя ўколы прымаў.

— Можа і не ад хвробы, — сумняваецца жонка Аляксандра М. — Можа ад дзеўкі брыдкай хваробы набавіўся. Хто там праўду такую знаць будзе? А восенню то руку пад трактар падлажыў. Як гэта ў нас гаворыцца — бяда за бядою ішла.

Дваюрадны брат Януша К. найбольш сумуе і гаруе за памерлым:

— Добры хлопец быў, хату падмяце, абед зварыць.

Апошнія два гады браты жылі разам у мураванцы Антона К.

— Весела было, — успамінае гэты час Антон К., дваюрадны брат. — Бывала, што ад дзяўчат па тры-чатыры лісты ўдзень прыходзіла. Некаторыя нават *мажлівыя* былі.

Хто ведае ці Антось К., каб браток жыў, і не ажаніўся б. Бо час ужо, неўзабаве паўвеку святкаваць прыйдзецца. А так, лічы прапала ўсё! Ад дваюраднага брата Януша К. я пачула такія вось меркаванні наконт смерці яго-нага сваяка:

— На Каляды мы крыху выпілі, літры нейкія два. А трэба дадаць, што Януш не піў круглы год, бо ад шалёнай хваробы лячыўся.

Вечарам пайшоў на забаву. Якраз пенсію ў кішэні меў. Антон К. па сённяшні дзень не можа зразумець „навошта было яму ўсе грошы браць". На забаве бегаў за ліцэісткамі. З адною, кажуць у Б., выйшаў на двухгадзінны „шпацыр". А на дварэ было 31 градус марозу. Пад поўнач бачылі яшчэ Януша. Піў тады як данскі казак, распранаўся ў танцы, заказваў у музыкантаў пажаданні сваім сімпатыям.

Пазней, над раніцай, зайшоў з адмарожанымі рукамі да Аляксандра М. Раніцай найшлі яго замерзлага, трыста метраў ад хаты дваюраднага брата Антона К.

— А як было? — задумваецца мой апавядальнік, — ніхто не ведае. Кажуць — загарачы быў! Таму і смерць такая халодная і лютая сустрэла. Таму, што кахаў усіх жанчын.

**Ева Сцепанюк**

P.S. Імёны герояў зменены.

# Я заўсёды любіла кніжкі

У мінулагоднім лістападаўскім нумары штомесячніка „Gazeta Hajnowska" маю ўвагу прыцягнуў артыкул „Przygoda na półce", з якога я даведаўся, што найстрэйшай чытачкай Гміннай публічнай бібліятэкі ў Дубічах-Царкоўных з'яўляецца Анастасія Рута. За месяц прачытвае яна ў сярэднім па 5-6 кніжак.

Я, колішні жыхар Дубічаў, ведаў гэту жанчыну ў твар. Рашыў я тады наведаць яе і распытаць пра жыццёвы лёс і прыгоду з кніжкай. У невялікім доміку на канцы вёскі прывітала мяне Ірына Леўчук, дачка Анастасіі. Гаспадыня завяла мяне ў малы, утульны пакойчык, у якім ляжала яе маці. Дапамагала яна нам у размове, паколькі ў бабулі слабы слых. На пасцелі старой жанчыны ляжала адкрытая кніга, а на стале — яшчэ чатыры.

З расказаў Анастасіі Руты я даведаўся, што нарадзілася яна ў Чанстахове, дзе яе бацька працаваў на чыгунцы. Родам ён з Дубічаў-Царкоўных, а маці — з Тапаркоў. Перад І сусветнай вайной, калі Анастасіі было 6 гадоў, іхняя сям'я вярнулася на бацькаўшчыну. 1915 год заставіў іх падацца ў бежанства ўглыб Расеі. У час падарожжа дзяўчынка амаль не загінула, калі нямецкая бомба папала ў суседні вагон і пашкодзіла навугольнік іх вагона. У Расеі былі яны тры гады. Бацька працаваў там земскім наглядчыкам. Два гады Анастасія хадзіла ў школу. Яшчэ перад бежанствам вучылася яна ў прыхадской школе. Калі дзяўчынка стала вучыцца ў школцы для бежанскіх дзяцей, настаўніца (родам з Ліды) па некалькіх днях заняткаў сцвердзіла, што яна нічога новага ў гэтай школцы не навучыцца і стала рыхтаваць яе ў ІІ клас гімназіі. На другі год паступіла яна ў гімназію і з адзнакай перайшла ў ІІІ клас. Але працягваць вучобу не давялося. Калі сітуацыя ў Расеі стала ўскладняцца, вярнуліся яны на радзіму.

— Прыехалі мы, а тут „ні кала, ні двара", — успамінае Анастасія Рута. — Дзядзька заняў дом і нам прыйшлося закватаравацца ў свіронку. Бацька стаў працаваць абходчыкам на чыгунцы, але зарабляў мала. Дарабляў яшчэ ставячы падмуркі пад хаты і часта як заплату прыносіў бохан хлеба і збанок кіслага малака. Выйшла я замуж, але неўзабаве мужа пасадзілі ў турму. Быў ён камуністам і належаў да Грамады. З турмы сталі прыходзіць весткі, што муж зазлаваў на мяне і пасля вяртання не будзе жыць са мною. Разышліся мы па добрай волі. Муж дазволіў, каб я пасялілася ў яго доме, які стаяў па-суседску. Маці, якой было тады 42 гады, захварэла на скарацечныя сухоты і за шэсць тыдняў памерла. У гэтым самым годзе пахавала я яшчэ двух братоў. Прыйшлося выхоўваць малога брацікa. Ой, колькі гора давялося мне перанесці!

Калі брат і сястра падраслі, Анастасія Рута падалася на службу ў Брэст. Трынаццаць гадоў працавала там прыбіральшчыцай. Пасля вяртання ў Дубічы-Царкоўныя звязалася з мужчынам, з якім пражыла без шлюбу сорак гадоў. Працавала ў яго на гаспадарцы. Пасля ягонай смерці перайшла жыць да дачкі. Нядаўна бабуля адзначала 91 гадавіну з дня нараджэння.

— Цяжка жыць старому нямогламу чалавеку, — наракае бабуля. — Адзінае, што мяне трымае на духу, гэта кніжкі. Аблажуся імі навокал ды чытаю і ўдзень, і вечарам. Даволі добра бачу толькі на адно вока. Другое зайшло бяльмом, але не хапіла грошай на лячэнне. Дачка прыносіць мне кніжкі з бібліятэкі. Люблю чытаць гістарычныя кніжкі, а таксама расейскіх класікаў. Некаторых, напрыклад Пушкіна, Някрасава, перачытвала я па некалькі разоў. Была ў мяне свая бібліятэчка, але многа кніжак я ўжо параздавала, бо неўзабаве будуць яны мне непатрэбны. Так і прайшло маё жыццё. А цяпер я дагараю... Калі настане цёплая пагода, можа неяк выкарабкаюся яшчэ на двор.

**Славамір Кулік**

Максім Танк

# Дзённікі

***(фрагменты)***

## 1979

**14.XII.** Па руках ходзіць, напісанае нейкім ярым антысемітам І. Самойліным „Открытое письмо Солженицыну".

П'ю ад сваёй язвы і ціску розныя настойкі на травах. Можа што і непатрэбнае п'ю. Хаджу з Таўбэ купляць для яго настольную лямпу.

Мне здаецца, што самае небяспечнае сяброўства — сяброўства пісьменнікаў. Кожны асцерагаецца, каб не выдаць сваю тайну. Я пераканаўся ў гэтым, пабачыўшы, колькі раздарыў сваіх тэм! Заўтра ў Саюзе пісьменнікаў сустрэча з перакладчыкамі, а там — Масква, сесія Вярхоўнага Савета БССР, зноў Масква.

**15.XII.** Прачытаў з рукапісу вершы Ларысы Геніюш. Адабраў каля двух дзесяткаў для „Полымя". Можа, як удасца правесці іх праз усе рагаткі, і надрукуюць. А ўсе іншыя патрабуюць яшчэ пэўнай дараборкі. І гэта трэба зрабіць, каб хутчэй выдаць новы яе зборнік. Вершы Л. Геніюш — не толькі выдатныя. Яны спалучаюць у сабе спрадвечны боль народа і боль чалавека, з годнасцю прайшоўшага праз усе пякельныя выпрабаванні жыцця, чаго ў нашы часы нат не ўдавалася многім святым.

Вельмі дрэнна чуецца Пятрусь (Броўка — рэд.). Прасілі мяне лімаўцы напісаць нешта навагодняе. Адмовіўся. Няма ніякага настрою.

Быў у Верачкі і ў Сашы. Атрымаў падрадкоўнікі вершаў А. Северыні, толькі такія блытаныя, што ніяк не магу іх разабрацца.

**17.XII.** Ездзіў у Пількаўшчыну. Пахадзіў па лесе. Прывёз высечаную ў Жукаве елачку. А на свеце напружанасць з кожным днём нарастае. Такое ўражанне, што людзі згубілі свой самазахавачы інстынкт, як тыя кіты, што выкідваюцца на бераг і гінуць. Як доўга можа яшчэ вытрымаць і не сарвацца да адказу нацягнутая цяціва вайны?

Чытаю. І ўсё больш адчуваю як мне не хапае сённяшніх ведаў на заўтрашні дзень.

**30.XII.** Ужо і рука стамілася ад пісання навагодніх паштовак і тэлеграм. Учора ў Саюзе пісьменнікаў усім уручалі новыя членскія білеты. Быў на праглядзе фільма „Дзікае паляванне караля Стаха". Фільм не спадабаўся. Званіў П. Панчанку, І. Шамякіну, А. Макаёнку, В. Быкаву, Я. Брылю, К. Кірэенку. Павіншаваў іх з Новым годам і з вылучэннем кандыдатамі ў Вярхоўны Савет БССР.

**31.XII.** Каторы дзень мяне не пакідае трывожнае прадчуванне нейкай бяды, хоць яна часцей да нас прыходзіць нечакана. Званіў Петрусю Броўку, але не дазваніўся. Думаў, сёння ўсе збяруцца за святочным сталом, але ўсе разбрыліся, толькі засталіся хворыя Ірыша з Сярожкам, і мы з Любашай. У Янкі Брыля радзіўся ўнук. Вось гэта навагодні падарунак Дзеда Мароза!

Я, прызнацца, нічога добрага не чакаю ад Новага года, бо, відаць, беззваротна мінулі тыя цудоўныя часы, калі кракаўскія дактары думалі над вынаходствам лякарства ад жаночых укусаў, бо калі пачнецца новая бойня, ад атамных укусаў ратунку не будзе.

Набліжаецца поўнач. Хутка пачуем звон крамлёўскіх курантаў. Пара адкаркоўваць шампанскае і запальваць на ёлцы агні.

*(Публікацыя Міколы Мікуліча)*

# Позірк у мінулае

**2 лютага**

1848 г. — падпісаны дагавор Гуадалупе-Ідальга, які канчаў вайну між ЗША і Мексікай. Вайна пачалася за Тэхас, які 2 сакавіка 1836 г. аб'явіў незалежнасць ад Мексікі, а 29 снежня 1845 г. стаў амерыканскім штатам. Мексіканцы 25 красавіка 1846 г. напалі на амерыканскія войскі на паўднёвай граніцы Тэхаса, аднак апошнія адбілі мексіканскія атакі. У сакавіку 1847 г. амерыканцы высадзілі ў порце Веракрус дэсант, які 14 верасня 1847 г. пасля крывавых баёў заняў Мехіку. Дагавор з 1848 г. не толькі замацоўваў прыналежнасць Тэхаса да ЗША, але прытым да пераможцаў пераходзіла больш за палову тадышняй мексіканскай тэрыторыі, на якой узніклі цяперашнія штаты Каліфорнія, Невада, Арызона, Нью-Мексіка, Юта, Каларада. У якасці кампенсацыі ЗША выплацілі Мексіцы 15 млн. дол. і прынялі на сябе сплату прыватных прэтэнзій амерыканцаў да мексіканскага ўрада на суму 3,2 млн. долараў.

1849 г. — нар. Павал Гвездаслаў (сапр. прозвішча Орсаг), славацкі паэт. Вучыўся ў венгерскай гімназіі, дзе пад уплывам асяроддзя і знаёмства з паэзіяй Пецёфі і Араня пачаў мадзярызавацца. Аднак любоў да маці, якая не разумела па-венгерску, а таксама азнаямленне з творчасцю славацкіх паэтаў Колара, Сладковіча і Халупкі прабудзілі ў ім патрыятычныя пачуцці і вяртанне да роднай мовы. Вялікае значэнне мелі таксама яго сустрэчы з лідэрамі чэшскага нацыянальнага руху, пасля якіх пакінуў дзяржаўную службу ў венгерскай адміністрацыі. З энтузіязмам сустрэў паўстанне Чэхаславакіі; быў паслом у Нацыянальную асамблею. Першыя вершы пісаў па-венгерску, аднак хутка цалкам перайшоў на славацкую мову; пісаў вершы, паэмы, драмы. Перакладаў таксама на славацкую мову творы м.ін. Шэкспіра, Гётэ, Міцкевіча і Славацкага. Памёр 8 лістапада 1921 г.

1882 г. — нар. Джэймс Джойс, ірландскі пісьменнік, аўтар „Уліса". Закончыў езуіцкія школы з пачатковым намерам стаць свяшчэннікам. У 1898 г. паступіў у Дублінскі універсітэт, які закончыў чатыры гады пазней; вывучаў там сучасныя мовы. Пасля выехаў у Парыж, дзе хацеў вывучаць медыцыну, аднак з-за хваробы маці вымушаны быў вярнуцца на радзіму. У Дубліне працаваў настаўнікам. Публікаваў вершы, а таксама з вялікімі поспехамі ўдзельнічаў у музычных спектаклях: меў па бацьку вытанчаны тэнар. У 1904 г. выехаў у Пулу, дзе настаўнічаў. Жыў таксама ў Трыесце. З 1914 па 1919 пражываў у Цюрыху, а пасля ў Парыжы. У 1939 г. вярнуўся ў Цюрых, дзе і памёр 13 студзеня 1941 г. пасля аперацыі.

**3 лютага**

1468 г. — памёр Іаган Гутэнберг, вынаходца друку. Народжаны каля 1398 г. у Майнцы, працаваў залатаром. Першыя спробы друкавання прадпрымаў каля 1440 г. у Страсбургу. У 1450 г. вярнуўся ў Майнц, каб сваю задуму ажыццявіць у камерцыйным маштабе. У Іагана Фуста ўзяў пазыку, якую, аднак, не быў у змозе аддаць тэрмінова і ў 1455 г. Фуст заняў выкананыя Гутэнбергам літары, матрыцы і прэсы. Гутэнберг адышоў ад кнігадрукавання каля 1465 г. у выніку паступовай затраты зроку; памёр у галечы. Адзінай кнігай, якую надрукаваў Гутэнберг, была 42-радковая Біблія, над якою працаваў ён у 1452—1457 гг. Апрача новай тэхнікі прыдумаў ён і новую фарбу, якая адпаведна прыставала да металічнай матрыцы. Гутэнбергава вынаходства пратрывала практычна без змяненняў да XIX стагоддзя. **(Ш)**

# Парнасік

## Наша месца

Калі марозна,
Мы ходзім злосна.
Калі адліга,
Даем зіме хвігу.
Калі слота,
Цяжка ідзе работа;
А калі мяцеліца,
Мо нешта зменіцца.
Калі пальцы змарозім,
Цяжка гэта пераносім —
Кіпяток не паможа
І — ховай Божа!
Калі вушы змарозім,
Перавязку робім
І шапку-вушанку —
Нашу выхаванку
Накладаем яшчэ ў хаце
Мой паважаны герой-браце.
Трэба целам даражыць
І сціпла, сумленна жыць.
А нашы дарагія птушкі, звяры —
Яны жывуць на двары
І яны не наракаюць
І сваю долю знаюць.
Адкрыем сваё сэрца,
Там яшчэ не цесна.
Ім дапамагаць
І не забіваць,
Як гэта робяць жулікі-браканьеры;
Іх душы месца — цёмныя норы.
Далёка іх мінаваць
І шкодзіць не дазваляць.
Прырода — наш родны дом,
Даглядайма яе кругом.
А наша месца —
Дзе жыццё наша ўецца.

**Мікалай Панфілюк**

## У дуброве зялёнай

У дуброве зялёнай
Бярозка расла,
Непадаль бярозкі
Дарожанька была.
Вяла гэта дарожка
Да суседняга сяла,
Там, дзе каханая
Дзяўчына жыла.
У тую дзяўчыну
Я так закахаўся
І ў гэтым каханні
Шчыра прызнаваўся.
Па гэтай дарожцы
Я часта хадзіў,
Пад белай бярозкай
Я часта сядзеў.
Розныя думкі
Па галаве кружыліся:
Чаму з тою дзяўчынай
Мы так палюбіліся?
Каханая дзяўчына
Мяне праважала
І на развітанне
Яна пацалавала.
Я помню ўсё гэта
Навек не забуду,
Каханую дзяўчыну
Кахаць да смерці буду.
Гэтыя словы
Тады я сказаў,
Як перад дзяўчынай
Клятвай прысягаў.

**Мікалай Пучко**

## Як жыць?

Ой, Божа ж, мой Божа,
Як мне цяпер жыць,
Як цяпер самому
У полі рабіць?
Пайшлі дзеці ў горад,
Пра нас забываюць.
Пэўна ў Беластоку
Намнога лепш маюць.
Там кіно, кавярні,
Азарт ды гулянкі,
Можна весяліцца
З вечара да ранку.
Глянь жа, брат, на вёску,
Як яна старэе.
Паміраюць людзі,
А хаты — пусцеюць!

**Мікалай Лук'янюк**

# Крыжаванка



**Гарызантальна:** 2. лаўка для ляжання ў вагоне, 4. трыганаметрычная функцыя, 6. след па свежай ране, 7. бразільскі танец, 9. малая Анна, 11. аўтар паланеза „Развітанне з Радзімай", 12. цёмная смалістая вадкасць, якая атрымоўваецца падчас сухой дыстыляцыі драўніны, 13. менш трох, 15. прастора, разлегласць, 17. жаночае імя, 18. для яе ліст, 19. фарба.

**Вертыкальна:** 1. прэзідэнт ЗША, 2. вялікае навадненне, 3. у яго напрамку перамяшчаецца Сонца, 4. вялікі корань, 5. спірт дамашняга вырабу, 6. літара грэчаскага алфавіта, 8. каштоўная папера, якая сведчыць аб удзеле ў акцыянерным таварыстве, 9. старажытнагрэчаскі бог падземнага царства, 10. ежа, 14. рэзідэнцыя французскіх каралёў у XVII—XVIII ст.ст., 16. заснавальнік першай расейскай дынастыі, 17. ствaральнік мастацкага твора. **(Ш)**

Сярод чытачоў, якія на працягу месяца прышлюць у рэдакцыю правільныя адказы, будуць разыграны кніжныя ўзнагароды.

**Адказ на крыжаванку з 50 н-ра:**

**Гарызантальна:** бляск, велагонка, санет, аўтар, яда, Брысбен, капмост, аер, трэск, хутар, Аўстралія, кніга. **Вертыкальна:** Бялград, білет, Конга, Венесуэла, антыпатыя, спрут, растр, Яна, акр, епархія, касяк, халва.

Кніжныя ўзнагароды высылаем **Мікалаю Сазановічу** з Навінаў-Вялікіх і **Лявону Федаруку** з Рыбалаў.



Фота Аліны ВАЎРАНЮК

# ВЕР — НЕ ВЕР

Астроне, я няраз ужо табе пісаў. І ўсе мае сны ты трапна разгадаў. Прашу, скажы, што можа абазначаць гэты. Быццам знаходжуся я на сваім дачным участку. Там побач суседскія ўчасткі, а на іх домікі — лепшыя, горшыя, розныя. А на маёй домік зусім дрэнны. Патрабуе рамонту. Я хачу яго наладзіць, шукаю прыладаў. Ды і тыя паламаныя. Бяру сякеру — яна нейкая вышчэрбленая, паламаная, малаток таксама развальваецца. За што не вазьмуся, усё старое. Рабіць няма чым. Сам участак нейкі вузкі, выглядае на тое, што сусед заняў сабе кавалак. Бачу прыбіральню. Але і яна не зусім прыгодная, нечысці выцякаюць на агарод. Бачу, што без добрых прыладаў нічога я не зраблю. Сеў я на ровар і паехаў па тыя прылады. Але ўжо не вярнуўся на сваю „дачу".

**Сцяпан**

Дарагі Сцяпане! Не хацелася б цябе смуціць, але і пацешыць няма чым. Вельмі кепска, калі сніцца, што развальваецца дом. Так і чакай, што нешта пагоршыцца ў тваім жыцці. Могуць быць праблемы з фінансавымі справамі, а больш верагодна, што кепска будзе з тваім здароўем, ці ў нейкіх іншых сямейных справах.

Цяжка будзе табе нешта тут наладзіць, знайсці метад, каб перамагчы цяжкасці, бо, як сам бачыш, не ўдалося табе нават знайсці добрыя прылады, каб адрамантаваць дом. Вышчэрбленая, паламаная сякера, малаток развальваецца, а ўчастак стаў вузкі і сусед заняў кавалак тваёй уласнасці. А навокал смурод, бо нечысці выцякаюць з прыбіральні на твой гародчык.

А мо будуць страты ў тваёй гаспадарцы, бо нейкі сусед свядома робіць смурод вакол твайго „агарода".

Добра, што ты плюнуў на гэта і ўжо „на дачу" не вярнуўся.

**Астрон**

Ніва

**„Niwa"**, ul. Zamenhofa 27, 15-959 Białystok, skr. poczt. 149, tel./fax 435-022.

Druk: „ORTHDRUK", Białystok, ul. Składowa 9.

**Tygodnik białoruski sponsorowany przez Ministerstwo Kultury i Sztuki.**

**Рэдагуе калектыў:**

Мікола Ваўранюк, Аляксандр Вярбіцкі, Ганна Кандрацюк-Свярубская, Алег Латышонак, Віталь Луба (сакратар рэдакцыі), Міраслава Лукша, Аляксандр Максімюк, Яўген Міранoвіч (галоўны рэдактар), Яўгенія Палоцкая (машыністка), Галіна Рамашка (кіраўнік канцылярыі), Марыя Федарук (машыністка), Ада Чачуга.

**Выдае:** Праграмная рада тыднёвіка „Ніва". Старшыня Праграмнай рады: Валянцін Сельвясюк.

**Prenumerata.**

1. Termin wpłat na prenumeratę na II kwartał 1997 r. upływa 5 marca 1997 r. Wpłaty przyjmują urzędy pocztowe na terenie woj. białostockiego i oddziały „Ruch" na terenie całego kraju.

2. Cena prenumeraty na II kwartał wynosi 13 zł.

3. Cena prenumeraty z wysyłką za granicę jest większa o 100% i przyjmowana jest tylko na okresy kwartalne. Wpłaty przyjmuje RUCH S.A. Oddział Krajowej Dystrybucji Prasy, ul. Towarowa 28, 00-958 Warszawa. Nr konta PBK XIII Oddział Warszawa 370044-16551-2700-1-06.

4. Prenumeratę można zamówić w redakcji. Cena 1 egz. wraz z wysyłką wynosi 1,75 zł, a kwartalnie — 22,75 zł. Wpłaty przyjmuje Rada Programowa Tygodnika „Niwa", Białystok, ul. Zamenhofa 27, nr konta PBK S.A., I Oddział Białystok, 11101154-207917-2700-1-65.

Tekstów nie zamówionych redakcja nie zwraca. Zastrzega sobie również prawo skracania i opracowania redakcyjnego tekstów nie zamówionych. Za treść ogłoszeń redakcja nie ponosi odpowiedzialności.

# Ніўка

## Пародыі

### Пунктуацыя сустрэчы

*Ісці да цябе без пытальнікаў...*

*Пасля кожнага*
*дня пытальнікаў...*

**Надзея Артымовіч**

Ты зайшоў да мяне з пытальнікам,
Не пастукаўся нават у дзверы.
І застаў мяне ў новым купальніку
Над аркушам чыстай паперы.
На мяне паглядзеў ты клічнікам,
Я ад позірку кропкаю стала.
Бо цябе да сябе я не клікала,
Бо цябе да сябе не чакала я.
Ты хадзіў па пакоі працяжнікам,
Часам коскаю супыняўся.
Як успомню — становіцца цяжка,
Як успомню — прыемна кахаўся:
То ў купальнік рукою залазіў,
То пяшчоціў мае калені...
Ты шматкроп'ем мяне абразіў,
І двукроп'ем забраў натхненне.

**Сяргей Чыгрын**




Малюнак М. СЕЎЛЮКА

## „Даўціпы" Андрэя Гаўрылюка

Паліцыянт затрымоўвае шафёра, які перавысіў дазволеную хуткасць. Шафёр прапануе:

— Задам вам простае пытанне; калі адкажаце, заплачу 100 злотаў, калі не адкажаце, не заплачу.

— Згода, — адказвае паліцыянт.

— Скажыце, у якім месяцы родзяцца негры?

— ???

— У дзевятым!

Шафёр ад'язджае, не заплаціўшы нічога. Паліцыянт рашае адыграцца на наступным парушальніку дарожных правіл; зноў затрымоўвае „пірата":

— Не аштрафую вас, калі адкажаце, у якім месяцы родзяцца негры.

Шафёр паціскае плячыма. Паліцыянт узрадаваны:

— У верасні!!!

* * *

Базар у Маскве:

— Бульба чарнобыльская! Бульба чарнобыльская! — голасна расхвальвае свой тавар гандлярка.

— Хто ж ад вас гэта купіць? — здзіўляецца замежны турыст.

— А купяць, даражэнькі, купяць; хто для цешчы, хто для суседзяў...

* * *

Адважны пажарнік выносіць старэйшую жанчыну з палаючай кватэры:

— Зашчаміце зубы! — загадвае, зносячы яе па драбіне.

— У такім выпадку мусім вярнуцца — асталіся ў шклянцы ва ўмывальні.

* * *

У кабінет Леніна ўваходзіць сакратар:

— Уладзімір Ільіч, прыслалі пачку з Чырвонага Крыжа.

— Усё аддаць дзецям!

— Але, Уладзімір Ільіч, там прэзерватывы...

— Прэзерватывы? Падзіравіць і аддаць меншавікам!

* * *

У галерэі паказваюць карціну „Ленін у Польшчы". Прадстаўляе яна шацёр з выстаючымі дзвюма парамі ног.

— Гэта ногі Крупскай і Дзяржынскага, — паясняе гід.

— А дзе Ленін? — пытаюць гледачы.

— У Польшчы.

<u>У кіпцюрах цецерука</u>

## Гутарка з Дзедам Марозам

Дарагі Дзед Мароз! Прабач, я ведаю, што ты цяпер Святы Мікола, аднак прывычка час ад часу бярэ верх над ведамі. Я не сумняваюся, што ты — прыстойны святы, а пачуццё меры табе таксама не чужое. Мог ты перахрысціцца ў Санта-Клаўса, або на нейкае там MIKOŁEX S.A., а ўсё ж такі ты не зрабіў гэтага. Значыць, з табою ўсё ў парадку. Усе мае просьбы, думаю, выслухаеш і здзейсніш.

Па-першае, хачу сустрэцца з міністрам культуры. Я ведаю, што ты цяпер падумаў. Ты цяпер падумаў так: „Ого, пэўна арганізуе чарговую нацыянальную меншасць на Падляшшы, ды шукае фінансавую дапамогу..." Прабач, Мікола. Хаця ты святы, усё-такі памыляешся. Так, папраўдзе, мне хочацца пабалакаць з Косцем Галчынскім, з Максам Багдановічам пагутарыць. А сам ведаеш, адзін толькі ў свеце чалавек, менавіта польскі міністр культуры валодае ключамі да дзвярэй, якія вядуць на той бок. Нат мой знаёмы, у якога ключоў пад дзве тысячы, гэтага аднаго якраз не мае.

Па-другое, абарані мяне, Святы Мікола, ад маіх абаронцаў. Памятаеш, думаю, цырк са страхавай кампаніяй PZU. Калі ты застрахаваў свае сані, тады напэўна ведаеш, у чым справа. Хацела гэтая саноўная фірма павысіць страхоўку аўтамашын на 43 працэнты, ды абаронцы не дазволілі. Накінуліся, што павысіць складчыну можна, а як жа, аднак не на 43 працэнты, а на 33. І ні цэнта больш. Цэлая завіруха напамінае мне чамусьці вайну за Фалклендскія астравы. Стралялі, а вялікіх стратаў не было. Памірыліся, а свету ўсё адно, хто перамог. Ніхто нават дакладна не ведае, на чыім баку была рацыя. А цяпер падсумуйце. Сорак тры і трыццаць тры, як не лічы, а гэта і так будзе пад восемдзесят. Абарані мяне, Святы Мікола, ад такіх абаронцаў.

Па-трэцяе, калі ўжо будзеш рыхтаваць падарункі, не ўкладай у мой мяшочак насавых хустачак ні шкарпэтак. Прынясі мне лякарствы, якімі ратуюцца дырэктары абанкручаных фабрык, скампраметаваныя міністры, асмешаныя партыйныя лідэры. Ёсць у нашай аптэцы лякарствы ад туберкулёзу і дызентэрыі, ёсць усё, што памагае зацяжарыць і пазбегнуць нежаданай цяжарнасці. Ёсць вакцына ад камароў, мух і кляшчоў. Няма, аднак, нічога, што памагае, нягледзячы на ніякія скандалы, утрымаць пажыццёвыя сінекуры. А людзі на правінцыі цяпер таксама высока мецяць і паскандаліць любяць.

Па-чацвёртае, Святы Мікола, не пасылай паводку на Каліфорнію, землетрасенне на Непал, засуху на Бурундзі. Думаеш, пэўна, што я вельмі добры чалавек, калі прашу гэтага. І зноўку прабач Мікола, хаця ты святы, усё-такі памыляешся. Я звычайны эгаіст і думаю толькі аб сабе. Не разумееш? Я таксама не. Ведаю адно, што калі на каліфарнійскім узбярэжжы падымаецца акіян, я атрымоўваю павышаны рахунак за электраэнергію, землетрасенне ў Непале павышае падатак за сабак, а калі ў Бурундзі трымае засуха, у нас даражэе бензін. З першым бурундзійскім дажджом павышаецца цана на гарэлку. Гэтая з'ява якраз лагічная. Дажджы ў Бурундзі — бензін не даражэе, што не даражэе — тое таннее. Танны бензін — больш людзей за рулём. Даражэйшая гарэлка выключае з вулічнага руху п'яных вадзіцеляў. Чаму тады якраз павышаюцца пасольскія камандзіровачныя, я не ведаю. Не ведаю таксама, што спалучае маю сучку Мурзу з сеймічнымі ваганнямі ў дзяржаве Непал. Хіба, як гаварыў прэзідэнт, усяму вінаватае павуцінне. Чырвонае, белае або чорнае аперазала свет. А колішнія пракорі гаварылі, што свет будзе заслонены дротам. Павуціннем, хлопцы, толькі натуральным, экалагічна чыстым павуціннем.

**Міхась Андрасюк**

## Сардэчныя тайны

Даражэнькае Сэрцайка! Не ведаю, ці ты зможаш мне дапамагчы ў маёй справе, бо я хачу табе напісаць пра справу чыста сексуальную. Ты ў апошні час усё больш раіш моладзі, як зласціць хлопца ці дзяўчыну, забываючыся пра тое, што і жанатыя ды замужнія маюць свае, нярэдка яшчэ больш важныя праблемы.

Вось узяць хаця б маё жыццё. Ну, выйшла я замуж з вялікага кахання. Каханне было настолькі моцнае, што мы пажаніліся праз месяц ад нашага знаёмства. Вядома, я, як і прыказвалі мае бацькі, не аддалася каханаму перад шлюбам. А хлопец аж гарэў. Мо гэта і прыспешыла наш шлюб.

І што пасля? Высветлілася, што не было да чаго спяшацца. Нібы ў яго ўсё ў парадку, але мне нешта было не так. Разумееш? Ён меў сатысфакцыю, а я — нічагуткі. Спачатку я думала, што яшчэ я не даспела да палавых зносін, што ўсё прыйдзе з часам. Мінула, аднак, ужо шэсць гадоў, а ў справах сексу — ніякіх змен. Сяброўка, з якой я падзялілася яшчэ ў пачатку нашага сужыцця, што ў нас не ладзіцца, пацяшала мяне, што як толькі народзіцца дзіця, усё зменіцца. Можа ў кагосьці так і было, але я нарадзіла ўжо двое дзяцей — і ніякіх змен.

Сэрцайка, мо і не выпадае пісаць пра гэта аж у газету, але не магу не прызнацца табе, што ў майго мужа мне не падабаецца. А справа ў тым, што, хаця мой муж даволі актыўны ў пасцелі, дык я ніколі не ведаю, калі ў яго бывае канец зносін. Нават не прадчуваю, у якім моманце гэта станецца. Ну, хоць бы ўшчыпнуў мяне, здаецца, каб папярэдзіць. Гляджу ж я часамі фільмы, дзе людзі сапраўды кахаюцца правідлова і ведаюць, што і калі. Але можа гэта толькі ў фільмах адбываецца, а ў жыцці... А мо толькі мяне напаткала такое няшчасце? Мо ў іншых людзей усё ідзе добра... Бо мне дык часамі выць ахвота раніцай, а кажуць жа, што пасля „добрай" ночы чалавек набірае сіл, становіцца больш актыўным. Скажы, ці ты можаш мне дапамагчы?

**Ліза**

Ліза! А ці твой муж хаця чытае „Ніву"? Ну, калі не, дык падсунь яму і няхай пачытае, калі ты сама саромішся яму сказаць пра свой непакой і незадавальненне. Пэўна, душыш у сабе тую горыч і прыгвараешся, што ўсё ў парадку. І людзі так думаюць, бо ж двое дзяцей ужо нарадзіла, а гэта для многіх — азнака таго, што з сексам у гэтай хаце добра!

А правідловыя зносіны — гэта не механічны акт, а цэлая гама ўражанняў. Спачатку — погляд, зацікаўленне, сустрэча вачэй партнёраў. Пасля — пацалунак, абдымкі, дотык. Найлепш, калі ўсё гэта раскладзена ў часе. І толькі пазней — тая квінтэсенцыя, фактычныя зносіны, якія **даюць задавальненне абодвум партнёрам.**

Пра гэта кожны з іх — і мужчына, і жанчына — павінны асабліва дбаць. Бо ўсё ж партнёра як лёгка можна здабыць, дык яшчэ лягчэй можна страціць, асабліва, калі ён нецярплівы.

І таму твой муж павінен звярнуць асаблівую ўвагу на канец палавых зносін. Уяўляю сабе, як гэта робіць ён, і агортвае жах нават мяне, Сэрцайка: раптоўна канчае справу, калі ты расказаная, саскаквае з цябе і адварочваецца да сцяны, а ты застаешся адна, разбітая, пакрыўджаная, злосная на ўвесь свет.

Ён мусіць неяк падрыхтаваць цябе да гэтага заканчэння. Я не кажу, каб адразу шчыпаў жонку, але ж можна папярэдзіць яе нейкім уздохам, голасам, жэстам. Урэшце можна сказаць ёй пра гэта, а яна ўжо тады дасць сабе з гэтым рады. Найгорш, калі муж — эгаіст і думае толькі пра сваё асабістае задавальненне.

Наогул у мужчын эмоцыі занікаюць пасля зносін даволі хутка, і многія жанчыны скардзяцца, што адразу ж пасля зносін муж засынае. Бо ў мужчын эмацыянальнае ўзбуджэнне насіляецца значна хутчэй, чым у жанчын, і так жа хутка — пасля аргазму — знікае. А жанчына даўжэй узбуджаецца і яе эмоцыі пасля зносін гаснуць даўжэй. І таму менавіта ў гэтым моманце патрабуе больш цяпла, ласкі, абдымкаў. Нельга адвярнуцца ад яе і спаць. Грэх быў бы гэта невыбачальны.

**Сэрцайка**